КУЛЬТУРА ▸ ГРАМАДСТВА ▸ ЭКАНОМІКА ▸
ЛЮДЗІ ▸ ПАДЗЕІ ▸ ФАКТЫ

◂ № 2 (273) ◂ 13 студзеня ◂ 2012 г.
www.novychas.org

# Новы Час

ISSN 2218-2144



**ПАЛІТВЯЗНЯМ УЗМАЦНЯЮЦЬ ПАКАРАННЕ**

Стар. 6

**ДАЕШ БЕЛАРУСКІ ДОЛАР!**

Можна параіць пад маркай праграмы імпартазамяшчэння выпускаць долары — ідэальны варыянт!

Стар. 5

**РЭВАЛЮЦЫІ НЕ БУДЗЕ**

15 студзеня Казахстан выбірае новы парламент, які цяпер павінен быць шматпартыйным. Ці можна разглядаць гэта як пачатак лібералізацыі ў краіне? Пра гэта журналіст «НЧ» Алег Новікаў размаўляе з Андрэем Грышыным, праваабаронцам з Алма-Аты

Стар. 12

**ФІЛАФЕЙ**

Стар. 15

**ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ!**

**МАЯ ВЫШЫВАНКА**

Нарыс Святланы Багданкевіч

▸ З НАГОДЫ

# СМЯРОТНАЕ СЯБРОЎСТВА

**Новы год кіраўнік Беларусі Аляксандр Лукашэнка пачаў са спадзяванняў «на актыўнае шматпланавае супрацоўніцтва з партнёрамі па Адзінай эканамічнай прасторы — Расіяй і Казахстанам». Разам з тым некаторыя ключавыя пытанні, у прыватнасці транзіту нафты праз Беларусь, застаюцца нявырашанымі.**




У сваім віншавальным пасланні прэзідэнту Расійскай Федэрацыі Дзмітрыю Мядзведзеву кіраўнік Беларусі напісаў: «Пераканаены, што наша канструктыўнае шматпланавае партнёрства будзе і ў далейшым садзейнічаць рэалізацыі патэнцыялу стратэгічнага ўзаемадзеяння паміж Беларуссю і Расіяй, служыць дадатковым імпульсам да інтэграцыі дзвюх дзяржаў».

Умовы пастаўкі расійскай нафты на беларускія НПЗ у 2012–2015 гадах узгодненыя — мяркуецца, у 2012 годзе на беларускія нафтаперапрацоўчыя заводы трубаправодным транспартам будзе пастаўлена 21,5 мільёна тон расійскай нафты, што на 3,5 мільёна тон больш, чым у мінулым годзе. Яшчэ 4 мільёна тон нафты будзе пастаўлена з Венесуэлы.

Аднак па важным пытанні — тарыфы на транзіт расійскай нафты праз тэрыторыю Беларусі ў Еўропу — бакі яшчэ не дамовіліся. Хаця дзейснае пагадненне заканчваецца ўжо праз два з паловай тыдні, 1 лютага. Штогадовы транзіт расійскай нафты праз Беларусь складае каля 75–80 мільёнаў тон. Зацягнуты працэс падпісання новага пагаднення, па інфармацыі РИА «Новости», абумоўлены тым, што беларускі бок мае намер падвысіць тарыфы на транспарціроўку расійскай нафты праз сваю тэрыторыю на 20%. Па беларускай тэрыторыі праходзяць дзве галінкі магістральнага нафтаправода «Дружба».

Нямецкая газета «Die Welt» прагназуе, што нафтавы канфлікт паміж Беларуссю і Расіяй можа негатыўна адбіцца на нямецкіх спажыўцах вуглевадароднай сыравіны. Таксама гэтае ж выданне піша, што Расія ўжо робіць спробы пастаўляць нафту ў Нямеччыну, абыходзячы нафтаправод «Дружба». У прыватнасці, 7 студзеня ў порт горада Парастак прыбыў танкер, які даставіў каля 80 тысяч тон нафты.

Раней аб'ектам спрэчак і шантажу была газатранспартная сістэма Беларусі «Белтрансгаз», якая ў выніку і апынулася ва ўласнасці «Газпраму». Цяпер аналагічныя крокі могуць быць з боку Расіі і датычна нафтаправоду «Дружба». Тым больш, Расія не хавае сваёй зацікаўленасці ў набыцці актываў у Беларусі.

Але паколькі Аляксандр Лукашэнка моцна трымаецца за фамільнае срэбра краіны — буйныя прадпрыемствы, транзітную інфраструктуру, — то ААТ «Белтрансгаз» Расія выкупіла, паабяцаўшы беларускаму боку больш нізкія цэны на газ. Пасля продажу «Белтрансгазу» быў падпісаны кантракт на пастаўку расійскага газу ў Беларусь і транзіт гэтага паліва па тэрыторыі Беларусі на 2012–2014 гады. Згодна з папярэднімі дамоўленасцямі, у першым квартале 2012 года Беларусь будзе плаціць за тысячу кубаметраў расійскага газу 164 долары.

Увогуле, узаемаадносіны Беларусі і Расіі даволі моцна прапітаныя духам эканамічных санкцый. Толькі, у адрозненн ад ЗША, Расія называе іх інакш. Напрыклад, рынкавымі адносінамі. У выпадках «узбрыкаў» беларускага кіраўніцтва Масква пачынае прад'яўляць прэтэнзіі, абмяжоўваць беларускі імпарт у Расію, пагражаць камерцыйнымі, а не льготнымі цэнамі на вуглевадароды.

Цікава, што нават у палажэннях міжурадавага пагаднення аб умовах куплі-продажу акцый «Белтрансгазу» і далейшай дзейнасці прадпрыемства замацаваная магчымасць прымусіць беларускія ўлады выкупіць акцыі ААТ «Белтрансгаз» ды кампенсаваць «Газпраму» ўсе страты, што могуць у яго паўстаць у сувязі з гэтым.

Увогуле, узаемаадносіны Беларусі і Расіі ўсё больш пераходзяць у форму феадальнай залежнасці. Усходні сюзерэн надзяляе свайго заходняга васала рэсурсам, наўзамен патрабуючы лаяльнасці і згоды. Пры гэтым унутраныя пытанні застаюцца ў кампетэнцыі афіцыйнага Мінска — караць, мілаваць, саджаць у турмы не забараняецца. А вось выходзіць на самастойную, аўтаномную ад Расіі знешнюю палітыку — не.

Беларусь паступова становіцца сатэлітам Расіі, што круціцца строга вакол яе арбіты. Пры гэтым пасол Расіі ў Беларусі Аляксандр Сурыкаў нагадвае пра «выратавальную саломінку»: «Але калі раптам Беларусь зноў апынецца ў складанай валютна-фінансавай сітуацыі, як гэта здарылася ў 2011 годзе, то тады, магчыма, трэба будзе падумаць аб пераходзе на агульную з Расіяй валюту». А заявы аналітыкаў, што Адзіная эканамічная прастора ўяўляе сабой спосаб паступовай інкарпарацыі Беларусі ў склад Расіі, называе выдумкамі «нядобразычліўцаў і зласліўцаў».

Але варта нагадаць, што эканамічны крызіс у Беларусі не скончыўся. І да праблем з балансам бюджэту, гандлю сёлета дадаюцца выплаты знешніх пазыкаў — больш за дзесяць мільярдаў долараў цягам года. Гэтыя абставіны пакідаюць кіраўніцтву Беларусі хісткія пазіцыі і патрэбу ў апецы «вялікага брата» з вялікім гаманцом.

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### ГОМЕЛЬ. СУД АПРАЎДАЎ АПАЗІЦЫЯНЕРА

**11 студзеня суддзя Цэнтральнага раёна Гомеля Алена Цалкова вынесла пастанову пра спыненне адміністрацыйнай справы за дробнае хуліганства адносна грамадскага актывіста, сябра Руху «За Свабоду», пенсіянера МУС Уладзіміра Няпомняшчых за недаказанасцю віны.**

Справа гэтая цягнулася ад 7 кастрычніка мінулага года, калі спадара Уладзіміра міліцыянты затрымалі на праспекце Леніна падчас расклейкі налепак пра Народны сход. Супраць яго склалі два адміністрацыйныя пратаколы — за парушэнне парадку арганізацыі масавага мерапрыемства і нецэнзурную лаянку.

Актывіста аштрафавалі двойчы. Да таго ж Уладзімір адседзеў больш як двое сутак у ізалятары, куды яго прэвентыўна змясціла міліцыя па распараджэнні намесніка начальніка Цэнтральнага РАУС Андрэя Пархоменкі.

Расклейку налепак спадар Няпомняшчых не адмаўляў, а штраф за дробнае хуліганства (нецэнзурную лаянку) асправіў.

Пра лаянку напісаў у рапарце толькі адзін міліцыянт — оперупаўнаважаны крымінальнага вышуку маёр міліцыі Валер Амельчанка. Ніхто іншы, апрача Амельчанкі, гэту лаянку не чуў.

**Паводле Руху «За Свабоду»**

### ГРОДНА. ЭПІДЭМІЁЛАГІ ЗАЧЫНІЛІ «ЕЎРАОПТ»

**Гіпермаркет «Еўраопт» каля чыгуначнага вакзала, які адкрыў свае дзверы для пакупнікоў 30 снежня 2011 года, праз тыдзень па рашэнні эпідэміёлагаў прыпыніў сваю працу.**

Як пракаментавала «Твайму Стылю» сітуацыю галоўны ўрач Гродзенскага занальнага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі Зоя Кулеша, у новай краме перад адкрыццём недастаткова якасна была праведзена ўборка памяшканняў. Таму было вынесена прадпісанне пра выпраўленне парушэнняў. Крама была зачыненая 6 студзеня.

Як толькі ўсе недахопы будуць выпраўленыя, крама адновіць сваю працу.

Гіпермаркет сапраўды адкрывалі ў спешцы. Шыльда з назвай крамы з'явілася толькі ў дзень адкрыцця, якое па тэхнічных чынніках адклалі на некалькі гадзін. Калі ж гандаль пачаўся, першыя пакупнікі звярнулі ўвагу на вялікую колькасць будаўнічага пылу на падлозе.

**Паводле «Блог Гродно s13»**

### БРАСЛАЎ. АБЯЦАНКІ-ЦАЦАНКІ

**У Браславе абяцаюць адкрыць 3D-кінатэатр і яхт-клуб, але трэці год не могуць дабудаваць аўтастанцыю.**

Раённая газета «Браслаўская зорка» паведаміла пра 12 інвестпраектаў у галіне турыстычнага бізнэсу. Паведамляецца, што латышская кампанія «AKVA NMP» гатовая ўзвесці каля самага берага возера Дрывяты гасцініцу для VIP-персон. І хоць пра тое, што будзе ўяўляць сабой супер-гасцініца, пакуль казаць рана, жыхары Браслава выказваюць асцярогі, што будаўніцтва «каля самага берага» — гэта не што іншае, як парушэнне водаахоўнага заканадаўства.

Усмешкі ў браслаўчан выклікаюць і планы пабудаваць шматфункцыянальны цэнтр з 3D-кінатэатрам, а таксама абяцаныя ў хуткай будучыні яхт-клуб і горналыжную трасу.

Справа ў тым, што будаўніцтва новай аўтастанцыі ў Браславе, дзе турызм лічыцца прыярытэтным кірунакм, зацягнулася ўжо на два з паловай гады, і праблема палягае ў адсутнасці фінансавання. На апошні квартал 2011 года абласны бюджэт на гэтыя мэты вылучыў адзін мільярд рублёў, але каля 700 мільёнаў тут жа забраў у абласны рэзерв. За асфальтавае пакрыццё вакол недабудаванага будынка запазычанасць працаўнікам ужо складае каля 280 мільёнаў рублёў.

Пакуль што аўтастанцыю замяняе вагончык на ўскраіне горада. Прыбіральня для пасажыраў знаходзіцца ў ста метрах ад яго. Зразумела, што турыстычнай прывабнасці райцэнтру гэта не дадае. Але мясцовае кіраўніцтва такія дробязі, падобна, не хваляюць: у Праграме развіцця Браслаўскага раёна на 2011–2015 гады пра будаўніцтва аўтастанцыі няма ні слова. Затое, напрыклад, ёсць амбіцыйны праект аднаўлення гістарычных будынкаў на Замкавай гары, дзе мяркуюцца архітэктурныя раскопкі з аднаўленнем фрагментаў старажытнага гарадзішча і будаўніцтвам амфітэатра.

«Паколькі грошай у бюджэце на ўвасабленне грандыёзных задумак няма і не прадбачыцца, на Замкавай гары з мая мінулага года пачалі ўзводзіць драўляныя хаткі-альтанкі. Яны не маюць да гістарычнага мінулага Браслава ніякага дачынення, аднак «засваенне тэрыторыі Замкавай гары», па меркаванні службоўцаў, таксама павінна прыцягнуць увагу турыстаў. Мяркуецца, што ў гэтых хатках у летні перыяд павінны працаваць майстры народных промыслаў, дэманструючы сваё мастацтва прыезджым. На мой погляд, гэта прафанацыя гісторыі. Значна правільней было б захаваць ландшафт Замкавай гары некранутым, таму што гэта мясцовасць нясе адбітак гісторыі», — лічыць браслаўскі краязнаўца Кастусь Шыдлоўскі.

Жыхары Браслава таксама лічаць, што для прыцягнення турыстаў замест невыканальных планаў мясцовану кіраўніцтву варта арыентавацца на рэальна выканальныя справы. Напрыклад, не чакаць фундатараў, гатовых укладваць сродкі ў яхт-клубы і супер-гасцініцы, а хоць бы давесці да ладу дарогі ў райцэнтры.

**Паводле «Беларускіх рэгіянальных навін»**

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

## МІНІСТР СУСТРЭНЕЦЦА З АКТЫВІСТАМІ

**Пра згоду польскага міністра юстыцыі сустрэцца з беларускімі актывістамі паведаміла журналістам прэс-сакратар Патрыцыя Лёсэ.**

«Калі гэта голас дэмакратычнай апазіцыі Беларусі, то міністр, безумоўна, будзе адкрыты для сустрэчы з прадстаўнікамі гэтых арганізацый з увагі на клопат аб юрыдычных стандартах у Беларусі. Аднак трэба разумець, што міністр Говін не можа і не плануе ўплываць на рашэнне незалежнага суда», — патлумачыла Патрыцыя Лёсэ.

Нагадаем, што 5 студзеня на імя міністра юстыцыі Польшчы Яраслава Говіна паступіў зварот ад імя пяці беларускіх і міжнародных арганізацый. Беларусы папрасілі асабістай сустрэчы з міністрам, каб абмеркаваць некалькі праблемных пытанняў. Гаворка ідзе пра шматгадовы пераслед судом у Беластоку палітэмігранта Андрэя Жукаўца і рашэнне суда ў Быдгашчы пра фактычную забарону бел-чырвона-белага сцяга на спартыўных мерапрыемствах у Польшчы.

Пад зваротам да міністэрства юстыцыі Польшчы падпісаліся Цэнтр «Супрацоўніцтва без межаў», «Звяз на карысць дэмакратыі ў Беларусі», «Малады Фронт», «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» і «Еўрапейская Беларусь».

Адзначым, што гэта будзе не першай сустрэчай прадстаўнікоў арганізацый на вышэйшым узроўні ў Польшчы. 22 снежня 2011 года яны сустрэліся з намеснікам генпракурора Польшчы Робертам Гернандам. Падчас сустрэчы былі абмеркаваны шматлікія факты парушэння правоў актывістаў беларускай апазіцыі з боку польскіх пракуратураў. Па выніках размовы, актывісты ацанілі яе як паспяховую.

**Прэс-служба Цэнтра «Супрацоўніцтва без межаў»**

ПАРТЫІ

## НА БХД ЗНОЎ ЦІСНУЦЬ

**У Мёрскім раёне ўлады распачалі масавы ціск на грамадзянаў, якія пагадзіліся стаць заснавальнікамі партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя». Іх прымушаюць адклікаць свае подпісы. Пра гэта паведаміў мясцовы каардынатар аргкамітэту БХД Багуслаў Мацук.**

Паводле ягоных словаў, ціск аказваецца, прынамсі, на пяцёра чалавек. Так, напрыклад, галоўную бухгалтарку калгасу «Парыжская камуна» Наталлю Лаўрэнаву пагражаюць звольніць з працы, калі яна не адмовіцца ад свайго подпісу. Да другога заснавальніка Андрэя Лемянёнка дадому прыходзяць участковы, а яго самога выклікаюць у сельсавет і райвыканкам. Апроч таго, яшчэ дзвюх дзяўчын праз подпісы выклікаюць у райвыканкам, а адной актывістцы аргкамітэту БХД прапануюць лепшае месца працы для яе мужа, калі яна адмовіцца ад свайго подпісу.

Аказвае ціск на актывістаў і кіраўніца ідэалагічнага аддзелу Тацяна Стальмачонак. Да таго ж, заснавальнікам БХД, якія жывуць на вёсцы, пагражаюць падчас сельгаспрац не вылучыць трактары, не даваць сена для жывёлы. «Але яны гэтага і так не даюць», — адзначыў Багуслаў Мацук.

«Улады заварушыліся. Я ўсім кажу: не хадзіце ні ў райвыканкам, ні ў сельсавет, нікуды, бо афіцыйна мы жывём у дэмакратычнай краіне, і нікому не павінна быць справы да таго, хто, дзе і за што ставіць свой подпіс. Адкліканне подпісу — незаконна. Гэта ж юрыдычны дакумент. Калі так будзе працягвацца, дык можна будзе адклікаць любы подпіс пад любым дакументам», — падкрэсліў ён.

«Улады дзейнічаюць гестапаўскімі і сталінскімі метадамі. Мы не робім нічога супрацьзаконнага. Ідэалогія «Беларускай хрысціянскай дэмакратыі» не з'яўляецца забароненай. Не ведаю, ці вытрымаюць людзі ціск. Шмат хто ўсё жыццё жыве ў страху. Тыя, хто больш разумны, кажуць, што не адмовяцца ад подпісу, нават калі іх і звольняць», — паведаміў Багуслаў Мацук.

«Закон толькі для людзей, а самі ўлады плявалі на законы. У нас два гады ідзе рамонт у дзіцячым аддзяленні раённай бальніцы, дзеці на калідорах спяць. Чаму так доўга? Грошы ж былі вылучаныя. Куды яны сышлі? На будаванне катэджаў для чыноўнікаў за паўмільёна долараў? На тое, каб яны ўсе свае выдаткі за кошт бюджэту аплачвалі?» — задаецца пытаннем каардынатар БХД.

Нагадаем, што сябру аргкамітэту па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» Насце Мацак пагражаюць звальненнем з працы, калі яна не выйдзе з яго складу. Наста працуе ў дзіцячым садку ў Нароўлі і атрымлівае каля 800 тысяч рублёў заробку. 28 снежня яе выклікалі ў раённы аддзел адукацыі, дзе мясцовая загадчыца Алена Іванаўна Кірганава паказала ёй дасье на яе, якое прыйшло з міністэрства юстыцыі.

**Паводле Прэсавай службы БХД**

МОВА

## ПРЭЗЕНТАЦЫЯ БЕЛАРУСКАМОЎНЫХ КАЛЕНДАРОЎ

**У межах кампаніі «Будзьма!» 16 студзеня 2012 года ў Палацы мастацтваў (вул. Казлова, 3) адбудзецца прэзентацыя беларускамоўных насценных календароў, выдадзеных ТБМ на 2012 год.**

Найперш гэта каляндар, прысвечаны 120-годдзю Максіма Багдановіча, а таксама некалькі дзясяткаў насценных календароў з выявамі шэдэўраў беларускага дойлідства, выдадзеных у межах праекта «Захаванне культурнай спадчыны праз удзел у краязнаўчай дзейнасці».

Удзел бяруць мастак-дызайнер, аўтар календароў Ігар Марачкін, старшыня ТБМ Алег Трусаў, першы намеснік старшыні ТБМ Алена Анісім.

Пачатак імпрэзы а 17-й гадзіне.

Уваход вольны.



## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# З ЧЫМ ПРЫЙШЛІ? І З ЧЫМ СЫШЛІ?

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Канешне, беларусы адсвяткавалі Новы год. Але, здаецца, дагэтуль нам будзе «аукацца» год мінулы, і ніякіх перспектыўных надзеяў на 2012 год мы не маем.**



Халера з прагнозамі на «канец свету» ў 2012 годзе. Хто толькі яго не абяцаў і пад якім соусам! Нібыта, заканчваецца «каляндар» індзейцаў Майя, і нам, па сканчэнні календара, прыйдзе канец. У 2012 годзе выйдзе на поўную магутнасць так званы «Вялікі адронны калайдэр» і створыць унутры сябе «чорную дзірку», і нам ізноў прыйдзе канец. Пра шматлікіх «сведак Іеговы» і іншых адэптаў «канца свету» ўжо нават казаць непрыемна.

Насамрэч, нас чакаюць большыя выпрабаванні, чым «канец свету». Ну што такое калайдэр? Сінхрафазатрон, толькі вялікі. Гэтыя сінхрафазатроны ўжо гадоў пад семдзесят выкарыстоўваюцца, і няшмат праблем было. «Чорных дзір» у Сусвеце шмат, і ні адна з іх не выклікала калапс Сусвету. Дый «дзіра» — не дзіра, а толькі зорка з звышмагутнай масай, што прыцягвае да сябе нават часцінкі святла — фатоны.

А наконт розных прадказанняў астролагаў і сектантаў, то мы ўжо перажылі канцы свету ў 1994, 1995, 1998, 2001, 2008 і іншых гадах. Але мне падаецца, што канец свету наступіў у ноч з 31 снежня на 1 студзеня 2000 года. Недзе ў 5 гадзінаў раніцы. Але зямляне так святкавалі наступленне новага тысячагоддзя, што канца свету нават не заўважылі.

Такім чынам, варта паглядзець, з чым мы прыйшлі ў 2012 год.

У Беларусі ў 2011 годзе зафіксавана самая высокая інфляцыя за апошнія дзесяць гадоў. Пра гэта сведчаць звесткі Нацыянальнага статыстычнага камітэта.

За мінулы год спажывецкія цэны павялічыліся на 108,7%, у тым ліку за снежань — на 2,3%. Гэта прыкладна на 100% больш, чым было прадугледжана прагнозам сацыяльна-эканамічнага развіцця, згодна з якім інфляцыя не павінна была перавысіць 7,5–8,5%.

> Беларусь з'яўляецца лідарам сярод краін СНД і Еўропы па тэмпах інфляцыі. Найбуйнейшыя аўдытарскія кампаніі свету прызналі эканоміку краіны гіперінфляцыйнай

Максімальны паказчык інфляцыі за апошнія дзесяць гадоў прыпаў на 2000 год, калі цэны ўзраслі на 107,5%, мінімальны рост цэн быў дасягнуты ў 2006 годзе — 6,6%.

У 2011 годзе цэны на харчовыя тавары ў Беларусі ўзраслі на 125%. За год рыбныя кансервы падаражэлі на 185,9%, рыба і морапрадукты — на 171,5%, алей — на 157%, мяса і птушка — на 155,5%, яйкі — на 146,1%, сыр — на 106,3, кандытарскія вырабы — на 154,3%, гарбата — на 141,8%, алкаголь — на 132,2%, тытунёвыя вырабы — на 128,2%, крупы — на 102,4%, макароны — на 79,3%, агароднiна — на 125,3%, бульба — на 0,4%, хлеб — на 57,1%, мука — на 80,3%.

Жыллёва-камунальныя паслугі за мінулы год узраслі на 42,5% (у тым ліку газазабеспячэнне — на 88,1%, водазабеспячэнне — на 35,9%, электразабеспячэнне — на 37,9%, ацяпленне — на 24,4%, тэхабслугоўванне — на 18,2%.

Беларусь з'яўляецца лідарам сярод краін СНД і Еўропы па тэмпах інфляцыі. Найбуйнейшыя аўдытарскія кампаніі свету прызналі эканоміку краіны гіперінфляцыйнай.

Гэта вам не калайдэр. Гэта тое, што адбіваецца на кожным беларусе.

У Мінску ў 2012 годзе плануецца дыферэнцыраваць тарыфы на праезд у грамадскім транспарце: у метрапалітэне тарыф плануецца зацвердзіць вышэйшым у параўнанні з наземным грамадскім транспартам, паведаміў дырэктар дзяржаўнай установы «Сталічны транспарт і сувязь» Валерый Шкуратаў.

Шкуратаў растлумачыў, што ў адпаведнасці з Бюджэтным кодэксам у сталіцы неабходна будзе павысіць тарыфы на праезд да ўзроўню 70% пакрыцця насельніцтвам выдаткаў на перавозкі.

Цяпер пасажыры аплачваюць толькі 35% ад сабекошту. Гэта значыць, што да канца 2012 года тарыфы на праезд у грамадскім транспарце Мінска павінны ўзрасці ўдвая. Па ацэнцы кіраўніка прадпрыемства, гэта досыць цяжкавыканальная задача, таму сталічныя транспартнікі маюць намер вырашаць яе паэтапна.

Значыць, зноў нас чакае павышэнне коштаў. Вось гэта сапраўды «чорная дзірка», — колькі ні плаці, усё мала.

Як сапраўдны «прарыў інвестыцый» казалі пра продаж «Газпраму» «Белтрансгазу» ў мінулым годзе. А зараз высвятляецца, што ўсё зусім не так.

«Газпрам» мае права патрабаваць ад улад Беларусі выкупіць за 5 мільярдаў долараў раней перададзеныя расійскай кампаніі акцыі ААТ «Белтрансгаз» у выпадку невыканання шэрагу палажэнняў пагаднення паміж урадамі дзвюх краін аб умовах куплі-продажу акцый і далейшай дзейнасці «Белтрансгаза».

Беларускі бок абавязваецца па патрабаванні ААТ «Газпрам» выкупіць усе раней перададзеныя ААТ «Газпрам» акцыі ААТ «Белтрансгаз» за 5 мільярдаў долараў, а таксама кампенсаваць ААТ «Газпрам» усе страты, якія могуць у яго ўзнікнуць у сувязі з гэтым «у выпадку невыканання любых са згаданых у дакументе ўмоў». Да такіх умоў адносяцца спажыванне закупляемага ў ААТ «Газпрам» газу выключна на тэрыторыі Беларусі; бесперашкодная і бесперабойная транспарціроўка па тэрыторыі Беларусі прыроднага газу, які падаецца з тэрыторыі Расіі; невыкарыстанне спецыяльных правоў па кіраванні ААТ «Белтрансгаз», якія парушалі б або ўшчамлялі аб'ём правоў, дадзеных акцыянерам «Белтрансгаза» ў адпаведнасці з заканадаўствам аб гаспадарчых таварыствах, уключаючы ўвядзенне асаблівага права («залатой акцыі») на ўдзел у кіраванні беларускім газатранспартным прадпрыемствам; адсутнасць не санкцыянаванага ўласнікам прыроднага газу адбору з патокаў газу, што транспартуюцца пцераз тэрыторыю Беларусі; нязменнасць умоў карыстання зямельнымі ўчасткамі пад аб'ектамі нерухомай маёмасці беларускага ўчастка газаправода Ямал — Еўропа ў адпаведнасці з заканадаўствам Беларусі, якое дзейнічае на дату падпісання пагаднення.

«Газпрам» ужо абнародаваў рашэнне перайменаваць «Белтрансгаз» у «Газпрам трансгаз Беларусь».

То бок, Беларусь канчаткова страціла «Белтрансгаз»?

А, між іншым, Аляксандр Лукашэнка 10 студзеня на цырымоніі ўручэння прэмій «За духоўнае адраджэнне» і спецыяльных прэмій прэзідэнта дзеячам культуры і мастацтва заявіў: «Мы здолелі пераўзыць няпрости перыяд без катастроф і страт. І дапамаглі ў гэтым найлепшыя якасці нашага нацыянальнага характару — міласэрнасць і дружалюбнасць, душэўная шчодрасць і гатоўнасць падзяліцца ўсім, што маем».

Паводле яго слоў, якія прыводзіць прэс-служба прэзідэнта, беларусы захавалі незалежнасць, грамадзянскі мір і згоду — «у гэтым заключаецца маральная перамога беларускага народа, які здолеў пабудаваць грамадства, заснаванае на законах сумлення, справядлівасці і клопату пра чалавека».

А зараз зазірніце ў пачатак артыкула. Паглядзіце на інфляцыю, на рост цэнаў і задайце пытанне: «Каго пад словам «мы» меў на ўвазе Аляксандр Лукашэнка?»

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### ДЗМІТРЫЙ УС



Былы кандыдат у прэзідэнты Дзмітрый Ус зноў звярнуўся да грамадзян з просьбай прыняць удзел у дзейнасці ініцыятыўнай групы па зборы подпісаў за змяненне Выбарчага кодэкса, інфармуе БелаПАН.

Як адзначаецца ў заяве, дэпутаты ўсіх узроўняў, пачынаючы ад сельсаветаў і заканчваючы Палатай прадстаўнікоў, пазбаўлены рэальнай улады. «Яны — не дэпутаты. Іх не выбіраў народ, іх прызначылі чыноўнікі. Таму людзі з дэпутацкімі значкамі бяздумна ўхваляюць самыя недарэчныя ініцыятывы ўлады. Гэта датычыцца вашага невялікага горада, вёскі, сталіцы. Вашы грошы пускаюць на набыццё дарагіх іншамарак і пабудову лядовых палацаў, у той час як у бальніцах перабоі з лекамі, у дзіцячых дамах і школах не хапае прасцін і лыжак. Змяніць гэта ў вашых сілах!» — заяўляе Ус.

Размова ідзе аб змене артыкулаў 34, 35 і 72 Выбарчага кодэкса. Як лічыць Ус, неабходна, каб кандыдаты мелі права накіроўваць ва ўчастковыя камісіі сваіх прадстаўнікоў, спіс якіх павінен быць пададзены за 15 дзён да галасавання. Прадстаўнікам кандыдата павінны выдаваць пасведчанні членаў выбаркамаў на працягу трох дзён.

Акрамя таго, членам камісіі, якія прадстаўляюць кандыдатаў, павінна быць дадзена права ставіць свой подпіс на адваротным баку кожнага бюлетэня. Гэта, на думку Уса, дазволіць пазбегнуць незаконнага ўкідванні бюлетэняў у скрыні падчас датэрміновага галасавання і фальсіфікацый падчас падліку галасоў.

Змяненне выбарчага заканадаўства Беларусі было асноўным тэзісам перадвыбарнай праграмы Уса ў ходзе прэзідэнцкіх выбараў 2010 года.

### ЛАРАН АРЫНІЧ



10 студзеня ў Пінску працягнуўся разгляд крымінальнай справы па выбуху на СТАА «Пінскдрэў-ДСП», — пішуць naviny.by. — Працэс праходзіць у адсутнасці галоўнага фігуранта гэтай вытворча-крымінальнай драмы — былы гендырэктар ЗАТ «ХК «Пінскдрэў» Ларан Арыніч схаваўся ад следства.

У кастрычніку 2010 адбыўся выбух на ўчастку па вытворчасці драўняных паліўных гранул. Пацярпеў 21 працаўнік прадпрыемства: 2 чалавекі загінулі на месцы, яшчэ 12 памерлі ў бальніцах. Пяцёра пацярпелых засталіся інвалідамі. Шкода склала амаль 4 мільярды рублёў.

Пракуратура Пінска распачала крымінальную справу па частцы 2 артыкула 302 КК РБ («Парушэнне правілаў бяспекі на выбухованебяспечным прадпрыемстве, што пацягнула па неасцярожнасці смерць чалавека з прычыненнем шкоды ў асабліва буйным памеры»). Крыху пазней гэта крымінальная справа была прынятая да вытворчасці і канчаткова расследаваная Генеральнай пракуратурай. Справа налічвае 56 тамоў.

Справа слухаецца Брэсцкім абласным судом, перад якім у якасці абвінавачаных паўсталі былы галоўны інжынер ЗАТ «Холдынгавая кампанія «Пінскдрэў» Уладзімір Шастакоў, былы дырэктар СТАА «Пінскдрэў-ДСП» Леанід Логвін і былы галоўны інжынер гэтага ж прадпрыемства Ігар Логвін. Леанід Логвін абвінавачваецца па частцы 2 артыкула 428 («Службовая халатнасць», санкцыя — да 5 гадоў пазбаўлення волі), двум іншым інкрымінавалася частка 3 артыкула 304 («Парушэнне правілаў пажарнай бяспекі», да сямі гадоў пазбаўлення волі). Паводле звестак Naviny.by, Уладзімір Шастакоў віны не прызнаў, а Леанід Логвін і Ігар Логвін прызналі віну часткова.

### АЛЕГ КАЧАН



Задача на летнюю лонданскую Алімпіяду 2012 года, якая раней была пастаўлена перад беларускімі спартсменамі, застаецца ранейшай — заваяваць 25 медалёў, у тым ліку 5 залатых. Пра гэта заявіў міністр спорту і турызму Алег Качан 9 студзеня на прэс-канферэнцыі ў Мінску.

«Усё гэта рэальна. На гульнях у Афінах у 2004 годзе мы заваявалі 15 медалёў, аднак пры гэтым яшчэ дзесяць спартсменаў занялі чацвёртыя месцы. У 2008 годзе ў Пекіне мы заваявалі 19 медалёў, з іх чатыры залатых. Так што задачы на Лондан рэальныя», — цытуе Алега Качана БелаПАН.

Качан паведаміў, што беларускія спартсмены ўжо заваявалі 103 алімпійскія ліцэнзіі ў 18 відах спорту. Яшчэ плануецца заваяваць 80–100 ліцэнзій.

Качан таксама заявіў, што няма праблем з бюджэтным фінансаваннем падрыхтоўкі спартсменаў да алімпійскіх гульняў. Паводле яго слоў, ні адзін трэніравальны збор сарваны не быў.

▸ АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# УДЗЕЛЬНІЧАЦЬ НЕЛЬГА БАЙКАТАВАЦЬ

Сяргей НІКАЛЮК

**Часам ад правільна абранага месца для пастаноўкі коскі залежыць не толькі жыццё пэўнага чалавека, але і накірунак развіцця краіны.**



У чарговы раз пачну з цытавання ўлюбёнага аўтара: *«Говорят: самые счастливые люди — те, кто слишком занят, чтобы думать об этом. Так давайте не рассуждать, а творить свое счастье».* Вось такое пажаданне асабіста я (зрэшты, як і астатнія жыхары рэспублікі) атрымаў у навагоднюю ноч.

Дзейнічаць без развагаў — гэта наша нацыянальная забава. Вялікую частку мінулага года ўсе мы мелі магчымасць назіраць, як гэтым займаліся ўрад і Нацбанк, якія адной рукой укідвалі ў эканоміку эмісійныя грошы, а другой спрабавалі стабілізаваць курс рубля.

У свой час быў папулярны анекдот пра малпу і прапаршчыка, які заканчваўся словамі: «А што тут думаць, трэсці трэба!» Я ўспомню пра яго невыпадкова. У верасні парламенцкія выбары, і па традыцыі, што даўно склалася, апазіцыя павінна вызначыцца з фарматам свайго ўдзелу ў іх. Варыянтаў, як заўсёды, два: удзельнічаць ці не ўдзельнічаць (байкатаваць). У кожнага варыянту ёсць прыхільнікі і апаненты, якія адстойваюць сваю рацыю з праканананасцю легендарнага прапаршчыка.

## «Яны ніколі не адмовяцца»

Палітыка — гэта мастацтва магчымага. Такім чынам, перш чым прыняць нейкае палітычнае рашэнне, неабходна вызначыцца з гранічнымі ўмовамі. У палітыцы яны задаюцца грамадствам. Беларускае грамадства можа знаходзіцца ў двух станах: спячым і ўзрушаным. У XX стагоддзі стан узрушанасці назіраўся ўсяго тройчы: у 1905, 1917 і напачатку 1990-х гадоў.

Натуральна, што кожнаму стану павінна адпавядаць свая стратэгія апазіцыі. Гэта добра разумеў Ленін. Насуперак распаўсюджанаму меркаванню, большую частку свайго свядомага жыцця правадыр сусветнага пралетарыяту «барацьбой з рэжымам» не займаўся. Не марнаваў ён часу і на асвету, а тым больш на агітацыю «большасці» (паводле перапісу 1987 года расійскае грамадства на 87% складалася з сялян). Усю сваю энергію і інтэлект будучы кіраўнік пераможнай рэвалюцыі факусаваў на «меншасці», з прасунутых прадстаўнікоў якой ён фармаваў партыю «новага тыпу».

У тым, што выбараў у Беларусі няма, тлумачыць лідарам апазіцыі і іх патэнцыйным прыхільнікам не трэба. Гэта аксіёма. Чаму ж тады апазіцыя ўвесь час прымае ў іх удзел, і з якой мэтай улада іх арганізуе? Пачну з другога пытання.

Выбары рэгулярна праводзіліся і ў СССР. Як жа без іх! «Мы жывём, — тлумачыць амерыканскі паліталаг Фарыд Закарыя, — у дэмакратычную эпоху. Наогул, не існуе сістэмы кіравання, якая валодала б большай легітымнасцю». Па гэтай прычыне Пол Пот і кампанія, захапіўшы ўладу, назвалі сваю краіну Дэмакратычная Кампучыя. Кхмерская рэспубліка іх не задавальняла. Па ўсёй верагоднасці, палітычна нейтральная «шыльда» не забяспечвала патрэбнага ўзроўню прыкрыцця палітыкі генацыду.

Гульні ў імітацыю дэмакратычных працэдур сёння шырока распаўсюджаныя ў грамадствах, якія не засвоілі ў поўным аб'ёме дзяржаўную культуру з яе абстрактнымі ўяўленнямі пра законнасць і правы. Колькі б прадстаўнікі апазіцыі ні казалі пра фальсіфікацыі пры падліку галасоў, якія б прыклады ні прыводзілі, тыповы прадстаўнік «большасці» будзе верыць у сумленнасць і справядлівасць выбараў.

На пабытавым узроўні гэты феномен досыць дакладна перадаецца прыказкай: «Хоть плюй в глаза — все божья роса». Калі ж з пабытавага ўзроўню падняцца на ўзровень «Азбукі паліталогіі», то давядзецца звярнуцца да цытавання: «Фрагментаваная свядомасць не ў стане самастойна выпрацаваць усвядомленую альтэрнатыву імітацыйна-прававаой і імітацыйна-дэмакратычнай дзяржаўнасці — па той простай прычыне, што ў ёй няма крытэраў для распазнання імітацыйнасці» (Ігар Якавенка, культуролаг).

У Савецкім Саюзе выбары праходзілі ў рэжыме плебісцытаў. Кандыдаты блоку камуністаў і беспартыйных у канкурэнтах не мелі патрэбы. Але час не стаіць на месцы. Сёння неабходны іншы ўзровень імітацыі, без апазіцыі тут не абысціся. Адсюль тая занепакоенасць, з якой спадарыня Ярмошына паспрабавала растлумачыць свавольным і някемлівым апазіцыянерам іх месца ў надыходзячым спектаклі: «Гэтага не адбудзецца! Ніводная апазіцыйная партыя, ніводны рух не змогуць тады існаваць далей. А не змогуць яны існаваць далей, таму што ў такім разе не будуць атрымліваць сродкі з-за мяжы «на падтрымку дэмакратыі», калі яны не будуць удзельнічаць у выбарах. Таму яны ніколі не адмовяцца».

## Прыклады, абраныя выпадкова

«Сродкі з-за мяжы» — важны аргумент супраць байкоту, але не адзіны. На імітацыю выбараў асобныя прадстаўнікі апазіцыі ўжо не першы год адказваюць імітацыяй свайго ў іх удзелу. Нічога новага ў гэтым няма. Асноўны механізм самаабароны савецкага чалавека, выпрацаваны за дзесяцігоддзі жыцця ва ўмовах дэмакратычнага па форме, але рэпрэсіўнага па сутнасці палітычнага рэжыму — гэта імітацыя паслухмянства. Яго сутнасць добра перадае папулярная ў савецкі час прыказка: «Дзяржава робіць выгляд, што плаціць, мы робім выгляд, што працуем». Нядзіўна, што калі савецкая дзяржава развалілася, то ахвотнікаў яе абараняць не знайшлося. Імітатары на ўчынкі не здольныя.

Але, акрамя імітатараў, у апазіцыі прысутнічае і пэўная колькасць тых, хто шчыра верыць у магчымасць дамагчыся змен праз працэдуру выбараў. «Каляровыя рэвалюцыі», справакаваныя масавымі фальсіфікацыямі падчас выбарчых кампаній, служаць ім прыкладам. Пры гэтым не бярэцца ў разлік, што для поспеху «каляровай рэвалюцыі» неабходны цэлы букет фактараў, галоўным з якіх з'яўляецца раскол сярод кіроўнай эліты. Менавіта раскол на вяршыні ўладнай «вертыкалі», як правіла, служыць трыгерам, які запускае ланцужок, на першы погляд, выпадковых падзей, што пераводзяць грамадства са спячага стану ва ўзбуджаны.

Нічога такога ў Беларусі пасля 1994 года не назіралася. Але, нягледзячы на гэта, перад кожнай выбарчай кампаніяй з'яўляюцца энтузіясты, якія заяўляюць пра свае рэальныя шанцы на перамогу. У маёй кампутарнай бібліятэцы ёсць тэчка «Апазіцыя», якая змяшчае файл «Неадэкватнасць». Вось толькі некалькі прыкладаў, абраных выпадкова, без указання аўтарства:

«Калі мы разам увечары пасля выбараў выйдзем і будзем з 50 тысячамі беларусаў слухаць вынікі выбараў, то я думаю, што выбарчая камісія не будзе схільная фальсіфікаваць вынікі. Усё ж такі людзі ўжо стаміліся».

«Людзей з пратэстнымі настроямі сёння на парадак больш, чым пяць гадоў таму. А гэта азначае, што якія б лічбы ні намалявала ўлада, 19 снежня не будзе пастаўлена кропка, а ўсяго толькі коска».

«Мая задача — зрабіць так, каб узяць 25% падтрымкі дэмакратычных сіл і дадаць да іх столькі ж людзей, якія не вызначыліся і якія хацелі б змен у Беларусі».

«Я пайду на выбарах да канца і да перамогі. Я адчуваю падтрымку людзей, адчуваю настрої ў грамадстве і ўпэўнены нават не ў тым, што мы можам перамагчы, а ў тым, што мы пераможам адназначна».




«Самае крыўднае палягае ў тым, што ў Беларусі былі ўсе гэтыя ўмовы напярэдадні выбараў 2006 года. І калі б не няўступлівасць і неразумны эгаізм дэмакратычнай кааліцыі, якая не мела перад выбарамі яркіх лідараў, з аднаго боку, і не пераацэньванне сваіх сіл «казулінцамі» — з іншага, палітычная кампанія гэтага года магла б мець зусім іншыя вынікі».

Апошняе выказванне належыць не палітыку, а прафесійнаму паліталогу. Я не магу ўстрымацца ад кароткага каментара: прэзідэнцкія выбары 2006 года прыйшліся на пік рэсурсавай падтрымкі беларускай эканомікі з боку Расіі, таму не дзіўна, што ўзровень электаральнай падтрымкі «адзінага палітыка» ў той год быў максімальны за ўсе гады правядзення незалежных сацыялагічных апытанняў.

## У межах статыстычнай памылкі

Сярод прыхільнікаў удзелу ў выбарах ёсць і прагматыкі. Яны не будуюць напалеонаўскіх планаў, мяркуючы, што з кожнай падзеі можна здабыць некаторую карысць. Курачка па зярнятку збірае, дык чаму б не скарыстацца дадзенай тэхналогіяй? Урэшце, любыя выбары павялічваюць мабілізацыйны градус у грамадстве, грэх было б гэтым не скарыстацца для прапаганды сваіх ідэй. «Акрамя таго, — мяркуе юрыст Сяргей Балыкін, — удзел у палітычнай кампаніі трэніруе каманды кандыдатаў і мабілізуе актывістаў».

Пакінем па-за дужкамі прэзідэнцкія выбары. Гэта асобная песня. Выбары ж парламенцкія, не кажучы ўжо пра мясцовыя, даўно праходзяць у «сумным рэжыме», а таму дадатковых магчымасцяў для прапаганды кімсьці чагонебудзь не ствараюць. Сёння ў пераважнай большасці беларусаў няма непераадольных перашкод для атрымання альтэрнатыўнай інфармацыі. Пэўныя нязручнасці, зразумела, маюць месца, але яны другасныя. Грамадства, што спіць, не спараджае попыт на інфармацыю падобнага кшталту. Праілюструю сказанае дадзенымі «Левада-цэнтра»: у 1990 годзе штодня чыталі газеты 64% рускіх, а «практычна ніколі» — 5%. У 2009 колькасць першых зменшылася да 11%, тады як колькасць другіх павялічылася да 20%.

А зараз зойдзем на сайт НІСЭПД. У кастрычніку 2010 года з рознай ступенню рэгулярнасць інтэрнэтам у Беларусі карысталася 38% насельніцтва старэй за 18 гадоў. Прывяду рэйтынг папулярнасці найбольш наведвальных грамадска-палітычных сайтаў: «Хартыя–97» — 0,8%, «Беларускі партызан» — 0,5%, сайты палітычных партый — 0,3% (статыстычная памылка — 3%).

Што да байкоту, то, па меркаванні майго цёзкі, з яго дапамогай нельга дасягнуць ніводнай з дэкларуемых апазіцыяй палітычных мэтаў. Байкот ніяк не дапамога палітычным зняволеным. Байкот не паўплывае на прызнанне вынікаў выбараў і дазволіць уладзе ў чарговы раз фактычна прызначыць парламент, не звяртаючыся да фальсіфікацый.

Што тут можна запярэчыць? Сапраўды, ніводнай з пералічаных вышэй мэтаў пры дапамозе байкоту дасягнуць нельга, але ж адкуль вынікае, што спіс мэтаў немагчыма пашырыць?

**(Працяг будзе)**

ІМПАРТАЗАМЯШЧЭННЕ

# ДАЕШ БЕЛАРУСКІ ДОЛАР!

Вольга ХВОІН

**Паводле афіцыйных дадзеных, гандлёвы дэфіцыт за 11 месяцаў мінулага года склаў 4,8 мільярда долараў, а імпартаёмістасць айчыннага ВУП — 75%. І Аляксандр Лукашэнка нядаўна запатрабаваў ад прэм'ера Міхаіла Мясніковіча рашучых дзеянняў па абмежаванні імпарту.**

У выніку быў хутка распрацаваны і прыняты план замены імпартных тавараў таварамі айчыннай вытворчасці. За кожны від тавару будзе адказваць ведамства, прызначанае ўрадам.

Для канкрэтыкі прывядзём дадзеныя з плану ўраду. Міністэрству прамысловасці даручана забяспечыць пастаўку 10 000 імпартазамяшчальных прасаў, 7 000 фенаў, 400 тысяч энергазберагальных люмінесцэнтных лямпаў, 7 тысяч парасонаў, 20 тысяч гадзіннікаў і 1 тысячы фрэзерных грабель.

Белнафтахім мусіць паклапаціцца пра імпартазамяшчэнне 7 тысяч кошыкаў для бялізны, 7 тысяч скрыняў для цацак і сінтэтычных пральных сродкаў.

Мінінфармацыі адказвае за імпартазамяшчэнне пазлаў (тысяча штук). Мінфін — за пастаўку тэчак-рэгістратараў (10 тысяч штук) і паперы для факса (50 тысяч штук). Беллегпрам забяспечыць выпуск 10 тысяч пагонных метраў зашпількі «маланка», 250 дзіцячых універсальных калясак, 1,5 тысячы шапак з натуральнага футра, а таксама тканін, адзення, трыкатажу і інш.

У гэтым спісе падгузнікі, парфума, гігіенічныя пракладкі, скутэры, настольныя гульні, яйкі полыя (адназначны фаварыт ва ўсіх, хто чытае дакумент), яны ж аналаг «кіндэр-сюрпрыза», шматслаёвыя батончыкі, дзіцячыя гіпаалергенныя сухія сумесі, шакаладныя дражэ, жавальныя цукеркі ды інш.

У дакуменце агаворана, што «спажывецкія характарыстыкі названых тавараў павінны забяспечваць іх канкурэнтаздольнасць, адпавядаць лепшым сусветным аналагам з улікам прапаноў Мінгандлю».

У 2007 годзе ўжо была прынятая Пастанова савету Міністраў №28 «Аб некаторых пытаннях вытворчасці і пастаўкі на ўнутраны рынак імпартазамяшчальных спажывецкіх тавараў». Адпаведныя заданні атрымалі ці не ўсе міністэрствы і ведамствы. Пры гэтым у дакуменце падкрэслівалася, што «асвойваемыя тавары павінны адпавядаць лепшым імпартным аналагам па спажывецкіх уласцівасцях, тэхнічных характарыстыках, выконваемых функцыях, дызайне, упакоўцы і цэнавым фактары». У спісе на імпартазамяшчэнне, у прыватнасці, называліся аўтамабілі легкавыя (2 тысячы штук), барбекю перасоўныя (500 штук), гантэлі (1000 штук), кампактныя фотакамеры (15 тысяч штук), рыдлёўкі (8 тысяч штук), MP-3 плэеры (10 тысяч штук), кандыцыянеры, нажніцы і многае іншае.

Ні ў якім разе не аспрэчваючы той факт, што трэба развіваць працоўныя месцы, вытворчасць у краіне, усё ж трэба паставіць пад сумнеў гэтыя праграмы — іх эфектыўнасць, мэтазгоднасць і ўвогуле рацыянальнасць. Найперш трэба адзначыць, што шэраг тавараў, якія маглі б канкураваць з імпартнымі аналагамі, беларускія вытворцы так і не навучыліся рабіць, хаця і ўзяліся за справу. Напрыклад, нажніцы для краўцоў у краме вам параяць набыць кітайскія — кошт аднолькавы, а якасць лепшая. Пральныя сродкі, прадметы гігіены таксама саступаюць па сваёй якасці, тэму можна працягваць. А выпадак з «імпартазамяшчэннем» маніторам — калі пад налепкай «Інтэграл» выявіўся лагатып Acer — увогуле мусіць увайсці ў гісторыю айчыннай эканомікі.

«Імпартазамяшчальныя кубікі, з якіх трэба складаць карцінкі, падарылі нам на новы год 10 хвілін цішыні. Малюнкі сталіся незбіраемымі (часткі малюнка не было, а частка дублявалася), а дзіця не чакала такой «засады» і аслупянела перакладвала элементы. З нецярпеннем чакаем пазлаў!» — пішуць на адным з беларускіх інтэрнэт-форумаў.

Адміністратыўныя меры барацьбы супраць імпарту прыводзяць да непрыхаванага пратэкцыянізму і лабіравання інтарэсаў дзяржаўных прадпрыемстваў з боку органаў дзяржаўнага кіравання. У выніку якасць імпартазамяшчальнай прадукцыі, яе кошт істотна саступаюць замежным канкурэнтам. І ўвогуле, імпартазамяшчэнне ў Беларусі найчасцей выглядае як з тым маніторам «Інтэграл» — сыравіну, камплектуючыя закупілі за мяжой, нешта дазбіралі тут і налепку пераклеілі.

Ці думалі ўвогуле аўтары гэтай праграмы пра эканамічную выгоду ад вытворчасці «250 дзіцячых універсальных калясак»? Каб адкрыць такое канкурэнтаздольнае прадпрыемства, трэба закупіць адпаведнае абсталяванне, набыць сучасную тэхналогію, матэрыялы і мець аб'ём вытворчасці ў дзясяткі тысяч, а не ў 250 штук.

Увогуле, калі ўрэшце даць свабоду бізнэсу, стварыць нармальныя ўмовы і рэальную падатковую сістэму, то ахвочых выпускаць шакаладныя дражэ і сукенкі будзе чарга. Беларусы — прадпрымальныя людзі і з галавою на плячах!

Але пакуль будуць дырэктыўныя планы на паперы і падобныя разнарадкі, то хіба што можна параіць пад маркай праграмы імпартазамяшчэння выпускаць долары — ідэальны варыянт!

ЖКГ

# ТАРЫФЫ РАСТУЦЬ, А ЗАРОБКІ…

Вольга ХВОІН

**Міністэрства энергетыкі і ўрад Беларусі прапануюць увесці ліміт спажывання электраэнергіі ў месяц. Але маюць розныя погляды на верхнюю планку расходу электрычнасці, што аплачваецца па мінімальных тарыфах.**

Урад прапанаваў увесці для грамадзян дыферэнцыяваныя тарыфы на аплату электраэнергіі. Так, плануецца ўвесці норму спажывання электраэнергіі на аднаго чалавека ў 107 кВт/г, на двух чалавек — яшчэ плюс 30 кВт/г, і гэтак далей на кожнага наступнага члена сям'і. Паводле задумы ўрада, лімітаваная электраэнергія будзе аплачвацца па льготных тарыфах, а электраэнергія, спажытая звыш ліміту, — па сабекошце.

У Мінэнерга палічылі такія нормы непрымальнымі і прапанавалі свой варыянт. Пра гэта гаворыцца ў лісце «Белэнерга», апублікаваным у газеце «Звязда».

«Міністэрствам энергетыкі падрыхтавана дакладная запіска ва ўрад. Там гаворыцца, што агучаныя прапановы па ўвядзенні лімітаў на спажыванне насельніцтвам электраэнергіі яно лічыць непрымальным. Больш таго, гэтыя прапановы цяпер наогул нельга ажыццявіць», — гаворыцца ў лісце.

Міністэрства энергетыкі прапануе ўвесці ліміт на кожнага абанента, з якім заключаны дагавор, і ўсталяваць іншыя нормы спажывання электраэнергіі. У выпадку, калі дом абсталяваны газавай плітой, ліміт складзе 150 кВт/г у месяц, калі электраплітой — 250 кВт/г у месяц. Пры гэтым колькасць асоб, што фактычна пражываюць у жылым памяшканні, у разлік прымацца не будзе. Таксама міністэрствам прапануецца не ўводзіць дыферэнцыяваныя ліміты для гарадскіх і сельскіх жыхароў. Беларускія ўлады, відавочна, вырашылі пераходзіць на рыначныя кошты аплаты камунальных паслуг. Але датычна рэсурсаў пакуль усё падводзіцца пад ідэю эканоміі. Ужо ўведзеныя нормы спажывання вады па льготных тарыфах: 140 літраў у суткі на чалавека (або 4,2 кубаметра ў месяц) з разліку 1 кубаметр за 890 рублёў. Кожны залішні кубаметр аплачваецца па цане 2546 рублёў. Ільготны тарыф разлічваецца ў адпаведнасці з колькасцю жыхароў, прапісаных у кватэры.

Атрымліваецца, што цяпер сям'і не выгодна жыць у кватэры, дзе прапісаны, напрыклад, адзін чалавек. Асабліва гэта ўдарыла па кішэні людзей, якія здымаюць кватэру. Ды і суткавы ліміт у 140 літраў вады на чалавека не такі і раскошны — ванну кожны дзень прымаць па льготным тарыфе не атрымаецца.

Паказальна, што асабліва эканоміць людзі наўрад ці пачалі, але аплата камунальных паслуг павялічылася.

ЭКАЛОГІЯ



# ВЫСЯКАЮЦЬ ЧАРГОВЫ ПАРК

Вольга ХВОІН

**У сталіцы пачалі высякаць парк 40-годдзя Кастрычніка, на яго месцы плануецца пабудаваць гатэль і забаўляльны комплекс «Пекін». Жыхары Мінска паўсталі ў абарону парка. Іх падтрымала Мінпрыроды.**

На месцы парку 40-годдзя Кастрычніка ў цэнтры Мінска плануецца пабудаваць гатэль і забаўляльны комплекс «Пекін». Для гэтага парк вырашана высекчы амаль цалкам. «Пекінам» будуць кіраваць кітайцы, і знаходзіцца ён будзе ў кітайскай уласнасці. Участак зямлі вылучаны інвестару бясплатна, для будаўніцтва «Пекіна» прадастаўлены асаблівыя льготы, зацверджаныя ўказам Лукашэнкі. Гасцініца будуецца да чэмпіянату свету па хакеі 2014 года.

Напрыканцы мінулага года рабочыя «Зеленбуда» паспелі ссекчы 15 дрэў парка 40-годдзя Кастрычніка. А ўсяго праект будаўніцтва гатэльнага комплексу «Пекін» прадугледжвае знішчэнне больш як 300 дрэў і забудову каля 70% тэрыторыі парку.

Жыхары Мінска ад 27 снежня збіраюць подпісы за адмену будаўніцтва і дзяжураць у парку.

Нечакана Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Беларусі падтрымала пазіцыю мінчан — парк мусіць быць максімальна захаваны. Адпаведны ліст за подпісам кіраўніка Мінпрыроды Уладзіміра Цалко адпраўлены 10 студзеня на імя старшыні Мінгарвыканкама Мікалая Ладуцькі.

Як паведаміла прэс-сакратар Мінпрыроды Алена Пенязь, у лісце зазначаецца, што праект дэталёвага планавання тэрыторыі ў межах вуліц Ульянаўская, Першамайская, Пуліхава, Смаленская і Леніна прадугледжваў стварэнне парку імя 40-годдзя Кастрычніка агульнай плошчай 7,6 гектара з дапушчальнай забудаванасцю да 40%.

У складзе гэтага плана схема забудовы не распрацоўвалася, не былі вызначаны аб'екты, плануемыя да размяшчэння ў праектаваных межах. Архітэктурны праект забудовы згаданай тэрыторыі на дзяржаўную экалагічную экспертызу не паступаў. Участак пад будаўніцтва новага гатэля выдзелены ўнутры парку, што не дазваляе захаваць яго нават часткова.

Алена Пенязь паведаміла, што раней па прапанове Мінпрыроды гарадскімі ўладамі былі прынятыя рашэнні аб адмене будаўніцтва рэстарана на тэрыторыі гэтага парку, а таксама аб недапушчэнні руху ў ім аўтатранспарту.

Для вырашэння гэтай і некаторых іншых праблем Мінпрыроды прапаноўвае Мінгарвыканкаму правесці нараду з удзелам зацікаўленых дзяржорганаў і арганізацый.

Апроч зялёнай зоны, жыхары прылеглых раёнаў ахоўваюць парк і як гістарычную каштоўнасць. Парк 40-годдзя Кастрычніка месціцца на памятным месцы, дзе да вайны быў гарадскі іпадром, а ў ліпені 1944 годзе прайшоў знакаміты Парад партызан. Гэты парад лічыцца найважнейшай падзеяй як у гісторыі беларускай партызанкі, так і ў гісторыі вызвалення Беларусі. На гэтым месцы каралі смерцю спачатку беларускіх падпольшчыкаў, а потым нямецкіх палонных.

Мясцовыя жыхары некалькі месяцаў спрабуюць абараніць парк, звяртаючыся ў розныя інстанцыі, у тым ліку і ў Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, да дэпутатаў, і ў мясцовыя адміністрацыі. 31 снежня яны накіравалі адкрыты зварот кіраўніку Беларусі Аляксандру Лукашэнку, пад якім сабралі 412 подпісаў, у тым ліку ветэранаў вайны.

Праз дарогу ад парку знаходзяцца недабудаваныя карпусы завода Кірава. Аднак кітайскі інвестар не хоча размяшчаць там свой гасцінічны комплекс.

Пакуль няма праектнай дакументацыі комплексу «Пекін». Для пачатку будаўніцтва яна не з'яўляецца неабходнай для інвестара ў адпаведнасці з Дэкрэтам №10. Аднак узнікаюць цалкам абгрунтаваныя сумневы ў тым, што на гэтым месцы будзе пабудаваны менавіта пяцізоркавы гатэль. Для пяцізоркавага гатэля неабходная адпаведная транспартна-камунікацыйная інфраструктура, якой няма ў гэтай мясцовасці і якую з-за ўмоваў складана спраектаваць і пабудаваць да 2014 года. Абавязковай умовай для сучаснага пяцізоркавага гатэля з'яўляецца панарама з акна. Калі кітайскі інвестар выводзіць вокны свайго аб'екта на прамысловую звалку, а не на стары парк, ці сапраўды ён плануе пабудаваць пяцізоркавы гатэль?

*P.S. Шаноўныя чытачы, калі і ў вашым горадзе высякаюць паркі пад будоўлі, напішыце нам пра гэта!*

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# КДБ СУПРАЦЬ МФ

Вольга ХВОІН



**Сябры міжнароднай моладзевай арганізацыі «Малады фронт» (зарэгістраваная ў Чэхіі) заяўляюць, што апошнім часам да іх павялічылася цікаўнасць з боку спецслужбаў. Актывістаў прымушаюць да супрацоўніцтва з КДБ, пагражаючы фізічнай расправай.**

Маладыя людзі, якія былі затрыманыя ў сталіцы 19 снежня 2011 года і адбывалі адміністрацыйны арышт у Цэнтры ізаляцыі праваparушальнікаў у Мінску на Акрэсціна, расказалі, што ў час арышту да іх прыходзілі прадстаўнікі Камітэта дзяржбяспекі і схілялі да супрацоўніцтва.

Так, актывіст «Маладога фронту» Міхаіл Мускі паведаміў, што да яго шэсць разоў прыходзілі людзі, якія прадстаўляліся супрацоўнікамі КДБ. «Яны прапаноўвалі мне прадаставіць нумары грантаў, якія нібыта атрымлівае МФ, прапаноўвалі падпісаць паперу аб неразгалошванні, пагражалі тым, што цяпер у камеру ўварвуцца «маскі-шоў» і мяне паб'юць. Але на гэтыя прапановы я адказваў адмовай», — распавёў Мускі.

Па словах Дзмітрыя Крымянецкага, яго пра дзейнасць «Маладога фронту» і пра кіраўнікоў арганізацыі таксама ў ізалятары на Акрэсціна распытвалі людзі, якія назваліся супрацоўнікамі КДБ. «Яны казалі, што могуць адправіць мяне на службу ў армію. На што я ў адказ ім сказаў, што ў арміі ўжо адслужыў. Тады яны пачалі гаварыць пра родных, што створаць маёй маці праблемы на працы. Я ім адказаў, што маці выходзіць на пенсію. Яны заявілі, што зараз паклічуць АМАП. Я сказаў: «Завіце». На гэтым усё скончылася», — распавёў Крымянецкі.

Былы палітвязень Уладзімір Яроменак (быў асуджаны за падзеі на Плошчы ў 2010 годзе) распавёў, што пасля арышту да яго таксама прыходзілі людзі, якія прадстаўляліся супрацоўнікамі КДБ. «Мне казалі, што я знаходжуся пад прафілактычным наглядам. І папросту магу пайсці адбываць пакаранне ў турму, калі не пагаджуся на супрацоўніцтва. З размоў стала ясна, што да ўсіх маладафронтаўцаў прыходзіць адзін і той жа чалавек, які прадстаўляецца Раманам. Пасля выхаду з ізалятару на Акрэсціна я даведаўся, што мяне адлічылі з БДУІР», — сказаў Яроменак. Акадэмічных запазычанасцяў у яго не было.

Кіраўніцтва БДУІР дазволіла аднавіцца на вучобе пасля таго, як Уладзіміра вызвалілі па амністыі з калоніі. Нагадаем, калі Уладзімір Яроменак адбываў пакаранне за ўдзел у мітынгу 19 снежня 2010 года ў Мінску, да яго прыйшлі людзі, якія не прадставіліся, і сказалі: «Вось, Валодзя, ёсць магчымасць напісаць прашэнне аб памілаванні. Але ён пагадзіўся напісаць толькі: «Прашу вызваліць мяне ад далейшага адбыцця пакарання». Віну сваю ён не прызнаваў.

Адзін з лідараў «Маладога фронту» Мікалай Дземідзенка не выключае, што цяпер спецслужбы збіраюць інфармацыю аб арганізацыі і яе актывістах. Магчыма, улады рыхтуюць судовы працэс супраць людзей, якія маюць дачыненне да «Маладога фронту».

Намесніца старшыні «Маладога Фронту» Наста Палажанка не адмаўляе — такая ўвага ўплывае на дзейнасць арганізацыі. «Складана арыентавацца, калі твой кожны крок вядомы. Мы ўчора распавялі журналістам пра прэс-канферэнцыю, не агаворваючы падрабязнасці, а хлопцам тэлефанавалі і папярэджвалі, маўляў, думайце, што будзеце гаварыць. Гэта сведчыць аб тым, што «Малады Фронт» не ўдалося знішчыць пасля спробы ў 2007 годзе, у 2011 годзе. Я думаю, яны не арыентуюцца, адкуль прыходзяць новыя людзі», — гаворыць намесніца старшыні МФ.

Наста Палажанка прызналася, што цяперашняя сітуацыя надзвычай непрыемная, бо «камітэтчыкі ўжо пераходзяць усе межы»: «Яны шукаюць новыя метады ўплыву, пазбаўляюць працы, вучобы, правакуюць канфлікты з роднымі. Страшна, што ў XXI стагоддзі гэта працягваецца. Нічога не мяняецца: пра што пісаў Васіль Быкаў, тое ж бачым і зараз. Публічнасць — адзіны метад, каб гэта перакрэсліць. Прынамсі я спадзяюся на гэта».

Як паводзіць сябе ў сітуацыі, калі да вас прыйшлі з КДБ і прымушаюць падпісаць паперы аб супрацоўніцтве, распавядае праваабаронца, былы следчы Алег Волчак:

— Апошнім часам зафіксавана многа выпадкаў, калі людзі прызнаюцца, што падпісалі паперы аб супрацоўніцтве з Камітэтам дзяржбяспекі Беларусі. І лагічна, што ў іх з'яўляюцца пытанні, ці не будзе адміністратыўнай, крымінальнай або грамадзянскай адказнасці за разгалошванне гэтага факту. У нас ёсць Законы «Аб аператыўна вышуковай дзейнасці», «Аб Камітэце дзяржбяспекі». Там сапраўды сказана, што грамадзяне могуць на добраахвотнай аснове з мэтай раскрыцця злачынстваў падпісваць такую дамову і маюць права на матэрыяльную кампенсацыю такіх паслуг.

Такім чынам, найперш мусіць быць добраахвотная ініцыятыва чалавека. Калі да гэтага прымушаюць, то можна гаварыць аб фактах незаконных дзеянняў, аб перавышэнні службовых паўнамоцтваў. Істотна і тое, што мэтай падобнага супрацоўніцтва мусіць быць выкрыццё злачынстваў, а не палітычны пераслед. То бок, калі вышукваць і здаваць інфармацыю пра тое, хто куды паехаў, хто што кепскае сказаў пра ўлады, то атрымліваецца палітычны вышук. На падобныя «размовы» ў КДБ трэба хадзіць са сваяком, юрыстам ці сваім грамадскім прадстаўніком. Абсалютна нармальна адмовіцца ад такой сустрэчы.

Важны момант: падобныя выпадкі ціску трэба агучваць публічна! Пісаць лісты пра тое, што прашу разарваць дамову, не трэба. Дастаткова публічна заявіць пра сваю адмову супрацоўнічаць са спецслужбамі.

Для чаго ўвогуле гэта робіцца? Атрымаць чарговае званне, магчыма, выканаць план па вярбоўцы інфарматараў. Але з прафесійнага погляду робіца гэта ў Беларусі няправільна. Часта гэтым займаюцца маладыя, маласведчаныя людзі. Таму так шмат правалаў з-за непрафесіяналізму спецслужбістаў. Вельмі добра, што ўжо многа людзей публічна заявілі пра сваю адмову супрацоўнічаць з КДБ.

# ПАЛІТВЯЗНЯМ УЗМАЦНЯЮЦЬ ПАКАРАННЕ

Вольга ХВОІН



**Напрыканцы студзеня суд будзе вырашаць ці пераводзіць палітвязня Мікалая Аўтуховіча з калоніі ў турму. Мікалаю Статкевічу ўжо змянілі ўмовы ўтрымання на больш жорсткія і перавялі ў Магілёўскую турму.**

Адміністрацыя Івацэвіцкай калоніі, дзе Мікалай Аўтуховіч адбывае пакаранне, ініцыявала справу аб пераводзе яго ў турму за парушэнне ўнутранага рэжыму. Апошні месяц Мікалай з-за жа прычыны правёў у памяшканні камернага тыпу (ПКТ).

Ваўкавыскі прадпрымальнік, былы афганец Мікалай Аўтуховіч асуджаны на 5 гадоў і 2 месяцы калоніі ўзмоцненага рэжыму нібыта за незаконнае захоўванне і перавозку пяці патронаў і ляльнічай стрэльбы. Праваабарончая арганізацыя «Міжнародная амністыя» прызнала Аўтуховіча вязнем сумлення. Праваабаронцы і сам Аўтуховіч мяркуюць, што гэтая справа была распачатая з-за ініцыятывы Аўтуховіча па зборы карупцыйных матэрыялаў на чыноўнікаў Гродзенскай вобласці.

Адной з прычынаў канфлікту з адміністрацыяй калоніі была спроба перавесці Аўтуховіча ў іншы атрад без важкіх на тое падстаў. Праваабаронца Алег Волчак распавёў, што пасля выхаду з ПКТ вязня пераводзяць у 12-ты атрад. Увесь час Мікалай знаходзіўся ў 13-м атрадзе, у яго склаліся адносіны з іншымі людзьмі і нават з'явіўся ўплыў. Ідэю перавесці яго ў іншы атрад Аўтуховіч успрыняў з пратэстам і запатрабаваў абгрунтаванне для пераводу. «Што такое для зняволенага пераводы па атрадах?, — гаворыць Волчак. — Складваецца сярод асуджаных меркаванне, што калі чалавека перакідваюць з атраду ў атрад, значыць ёсць праблема — даносіць кіраўніцтву калоніі, мае канфлікты з вязнямі ці нешта яшчэ. Важны момант: калі чалавек дабіўся павагі ад асуджаных, то ён мусіць адстойваць свой гонар. У выніку найшла каса на камень, і Аўтуховіча на месяц перавялі ў памяшканне камернага тыпу і ўвялі абмежаванні».

На пачатку года ў Мікалая мусіла быць спатканне з жонкай, ён гэтага вельмі чакаў, але сустрэчу адмянілі. Абмежавалі суму грошай, на якую можна набываць тавары ў тутэйшай краме, адмовілі ў прадуктовых перадачах.

Аўтуховічу прад'явілі прэтэнзіі, што ён злосны парушальнік, бо адмаўляецца хадзіць у сталовую. Але справа ў тым, што Мікалаю праблематычна тую ежу пераважоўваць, да таго ж у яго праблемы са страўнікам. І ён харчаваўся з перадачаў, якія яму прывозіла жонка, сам сабе нешта гатаваў. Праваабаронцы накіравалі скаргу пракурору Брэсцкай вобласці (ён таксама быў афганец), але адказу пакуль няма.

Ціск на Аўтуховіча павялічыўся восенню, на яго пачалі з любой нагоды складаць дысцыплінарныя пратаколы. Дарэчы, Аўтуховіч дагэтуль не падпісаў паперу аб гатоўнасці супрацоўнічаць з адміністрацыяй калоніі, стаць на шлях выпраўлення. Але Мікалай шматкроць заяўляў, што ён нічога не парушаў, адпаведна і выпраўляцца, каяцца яму няма ў чым. Праблема ў тым, што без подпісу гэтай паперы немагчыма ўмоўна-датэрмінова выйсці на свабоду. Але Волчак, які добра ведае Мікалая Аўтуховіча пераканаць, што той ніколі не падпіша падобных папер.

Праваабаронца таксама расказаў, што былі спробы справакаваць Мікалая на бойку, але ён пісаў, што трымае сябе ў руках і не збіраецца весціся на падобныя хітрыкі. Не так даўно з'явілася інфармацыя, што Мікалай парэзаў сабе вены. Волчак падкрэслівае, што гэта быў вымушаны крок, каб захаваць сябе ў турэмных умовах, але ні ў якім разе не намер скончыць жыццё самагубствам.

«Я ведаю, што Мікалай вельмі любіць жыццё. І той факт, што ён парэзаў сабе вены, — гэта не знак стомы, а, як ён сам пісаў у адным з лістоў, метад абараніць свой гонар. Ён ведае, што яго імя ў спісе палітзняволеных, што свет пра яго памятае. Больш таго, ёсць людзі, якія дапамагаюць яго жонцы матэрыяльна. І гэта дадае Мікалаю аптымізму. Я нагадаю, што Мікалай прасіў пісаць яму лісты, пісаць пра ўсё, каб была магчымасць пераключыць мазгі на іншае жыццё», — падкрэслівае праваабаронца Алег Волчак.

Перавод у турму — гэта больш жорсткае пакаранне, бо ў калоніі асуджаныя могуць працаваць, перамяшчацца па тэрыторыі, дыхаць паветрам. У турме чалавек увесь час знаходзіцца ў камеры і выходзіць толькі на кароткія прагулкі.

На гэтым тыдні экс-кандыдату ў прэзідэнты Беларусі Мікалаю Статкевічу прысудзілі перавод на турэмны рэжым адбывання пакарання. Такое рашэнне прыняў суд у шклоўскай калоніі № 17, дзе адбывае пакаранне палітык. Судзіў Статкевіча суддзя Віталь Волкаў.

Нагодай для больш жорсткага пакарання Статкевічу стала афіцыйнае прадстаўленне адміністрацыі шклоўскай калоніі, у якім сказана, што асуджаны палітык «не стаў на шлях выпраўлення», «да ўмоўна-датэрміноваага вызвалення не імкнецца» і пасля адбывання пакарання мае намер «праводзіць злачынны спосаб жыцця».

Фармальнай прычынай для абвінавачання Статкевіча стала тое, што ён знаходзіўся без біркі з нумарам зняволенага на адзенні, а таксама не ўказаў у спісе аса-

## 20 студзеня, пятніца

### Беларусь 1

**06.00, 07.05, 07.35, 08.10, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.40** Навіны.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** Гістарычная драма «Справа гастранома №1» (Расія). 3-я серыя.
**10.05** Меладраматычны серыял «Маруся» (Украіна). 4-я серыя.
**11.00** Серыял «За ўсё табе дзякую» (Расія -Украіна). 4-я серыя.
**12.10** Сфера інтарэсаў.
**12.35** Зброя.
**13.00** Драматычны серыял «Вар'яты» (ЗША). 4-я серыя.
**13.55** Мультфільм.
**14.05** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда»(Украіна).
**15.10, 19.15** Навіны рэгіёна.
**15.25** Актуальнае інтэрв'ю.
**15.40** Фартыфікацыя.
**16.20** Эпоха. Падзеі і людзі.
**17.05** Меладраматычны серыял «Маруся» (Украіна). 5-я серыя.
**17.55** Серыял «За ўсё табе дзякую».
**19.30** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**19.55** Гістарычная драма «Справа гастранома №1» (Расія). 4-я серыя.
**21.00** Панарама.
**21.40, 01.40** Дзень спорту.
**21.50** Трылер «Амерыканец» (ЗША).
**00.00** Рамантычная драма «Мы тут больш не жывем» (ЗША).

### АНТ

**06.00, 09.00** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.05** «Права на абарону».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Бедная Насця». Шматсер. фільм.
**12.00** Шматсерыйны фільм «Шлюб па завяшчанні. Вяртанне Сандры».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Хачу ведаць».
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**17.00** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны.
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Чакай мяне». Беларусь.
**19.00** «Поле цудаў».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Вялікая розніца».
**22.10** «Наша Белараша».
**22.40** Фільм «Мелодыя для катрынкі».
**02.20** Начныя навіны.

### СТБ

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**08.30** «Знахар». Серыял.
**09.30** «Аўтапанарама».
**09.55** «Добры дзень, доктар».
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** Прэм'ера: «Сямейныя драмы».
**11.40** «Званая вячэра».
**12.35** «Агонь кахання». Серыял.
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** «Студэнты». Гумарыстычны серыял.
**14.40** «NEXT-2». Серыял.
**15.35** «Паляванне на Ізюбра». Серыял.
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** Прэм'ера: «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** Ток-шоў «Такі лёс».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.35** Фільм «Таткі». Францыя, 1983г.
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Гарачы лёд».
**23.30** Фільм «Клаанг: вайна гладыятараў». ЗША-Італія, 2010г.

### Беларусь 2

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца. Мінск.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Серыял «Гарачы лёд».
**10.00** Ясі і худзей.
**10.30** Школа рамонту.
**11.30** Жансавет.
**12.05** Беларуская кухня.
**12.40** Страсці па культуры.
**13.20** Дакументальны фільм «Сустрэча».
**13.45** Серыял «Маргоша» (Расія).
**15.35** Пазакласная гадзіна.
**15.55** Нянудны глобус.
**16.25** Біятлон. Кубак свету. Спрынт. Мужчыны. Прамая трансляцыя.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Камедыйная меладрама «Першая дачка краіны» (ЗША).
**21.00** Калыханка.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**22.15** Бітва экстрасэнсаў.
**23.10** Містычны дэтэктыў «Барвовыя рэкі-2: Анёлы апакаліпсісу» (Францыя).
**00.50** Серыял «Маргоша».

### МИР

**06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 10.00, 11.00, 12.00, 13.00, 16.00, 18.00, 19.00, 22.00** Навіны Садружнасці.
**06.05, 10.05** «Рэспубліка сёння».
**06.20** «Таямніцы манежа».
**07.05** М/с «Апошні з магікан».
**07.40** «Цік - так».
**08.05, 09.05, 04.30** Т/с «Анёл з Арлі».
**10.25** «Смачны свет».
**11.05, 12.05** М/ф «Народжаная рэвалюцыяй».
**13.20** «Навіны садружнасці. Культура».
**14.20** М/с «Прыгоды майстра Кун-фу».
**14.40** Т/с «Старшакласнікі».
**15.30** Т/с «Дзядуля маёй мары».
**16.25** Т/с «Агонь кахання».
**18.05** «Правілы жыцця».
**19.25** «Акцэнты».
**19.40, 05.25** «Вялікі рэпартаж».
**20.10** М/ф «Мусульманін».
**22.20** Міжнародны турнір па футболе «Кубак садружнасці - 2012».
**03.10** «Любімыя акцёры».
**00.40** М/ф «Браты Рыка».
**02.55** «Добрыя жарты».

### Discovery Channel

**06.00** Махінатары на трасе: Land Rove. Частка 1.
**06.25** Гіганцкія будоўлі.
**07.20** Патрабуецца зборка: серыя 38.
**07.50** Як гэта зроблена?: серыя 5.
**08.15** Дэмантаж.
**08.45** Дэмантаж.
**09.10, 17.00, 21.00, 02.50** Разбуральнікі легенд.
**10.05** Круты цюнінг: серыя 6.
**11.00, 01.55** Гіганцкія будоўлі.
**11.55** Хлопцы з гарматамі.
**12.50, 16.05** Зброя будучыні.
**13.45, 19.00, 00.00** Top Gear: серыя 1.
**14.40, 05.05** Круты цюнінг: Серыя 7.
**15.35** Махінатары на трасе: Land Rover. Частка 2.
**18.00, 04.10** Патрабуецца зборка: серыя 39.
**18.30, 04.40** Як гэта зроблена?: серыя 6.
**20.00, 01.00** Пен і Тэлер, праўда і хлусня: серыя 4.
**22.00** Чаму? Пытанні светабудовы.
**23.00** Дэмантаж.
**23.30** Дэмантаж.
**03.45** Вокамгненныя катастрофы: серыя 50.

### Eurosport

**01.00** Покер.
**02.00** Конны спорт: Агляд тыдня.
**02.30** Тэніс.
**03.00** Тэніс: Турнір Вялікага Шалома. Адкрытае першынство Аўстраліі. Дзень 5.
**05.00** Тэніс: Турнір Вялікага Шалома. Адкрытае першынство Аўстраліі. Дзень 5.
**11.00** Тэніс: Турнір Вялікага Шалома. Адкрытае першынство Аўстраліі. Дзень 5.
**16.30** Біятлон: Кубак свету. Антхольц. Спрынт. Жанчыны.
**17.45** Горныя лыжы: Кубак свету. Супер-Гігант Мужчыны.
**18.30** Скачкі на лыжах з трампліна. Кубак свету.
**20.15** Тэніс.
**20.45** Снукер: Мастэрс. Лондан. 1/4 фіналу.
**22.00** Снукер: Мастэрс. Лондан. 1/4 фіналу.

### Белсат

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Гарачы каментар.
**07.35** Басанож па свеце.
**08.00** «Таямніца крэпасці шыфраў», тэлесерыял: 9 серыя.
**08.45** Рэпартэр.
**09.10** «Школа на санцапёку», серыял: 1 серыя.
**09.40** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.05** «Браты-ворагі», дак. серыял: «Фемiністка ды мачо».
**10.35** Форум (ток-шоу).
**11.20** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**11.30** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**11.45** Эксперт (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**12.15** Басанож па свеце.
**12.40** «Інстынкт», дэтэктыўны серыял: 4 серыя.
**13.25** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**13.50** «Школа на санцапёку», серыял: 1 серыя.
**14.20** «Таямніца крэпасці шыфраў», тэлесерыял: 9 серыя.
**15.05** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**15.10** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**15.40** «Браты-ворагі», дак. серыял: «Фемiністка ды мачо».
**16.10** Форум (ток-шоу).
**17.00** «Мікі Моль і Страшны Плашч», анімацыйны фільм: 4 серыя.
**17.25** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).
**17.30** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.05** «Інстынкт», дэтэктыўны серыял: 4 серыя.
**18.45** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**19.00** «Апантаныя», дак. цыкл: 7 серыя.
**19.10** Без рэтушы: «Алег Бябенін: Я застануся», дак. фільм, 2010 г., Беларусь.
**19.30** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.40** Гарачы каментар (публіцыстычная праграма).
**19.50** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**20.25** Невядомая Беларусь: «Зямля», дак. фільм, 2010 г., Беларусь.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**21.50** «Журэк», маст. фільм, 2003 г., Польшча.
**23.00** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).
**23.05** Аб'ектыў.
**23.30** Гарачы каментар.

## 21 студзеня, субота

### Беларусь 1

**06.35** Існасць.
**07.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.00, 12.00, 15.00, 19.00** Навіны.
**09.10** Ранішняя хваля.
**09.45** Скрынка перадач.
**10.20** Культурныя людзі.
**10.55** Серыял па выхадных. «Сваты» (Украіна).
**12.10** Меладрама «Справа была ў Пянькове» (СССР).
**14.00** Мультфільм.
**14.15** Вакол планеты.
**15.10** Навіны рэгіёна.
**15.30** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**16.00** Прыгодніцкая камедыя «Фанфан-Цюльпан» (Францыя).
**17.50** Адмысловы рэпартаж АТН.
**18.05** Ваша лато.
**18.45** Латарэя «Пяцёрачка».
**19.15** «Еўрафэст». Відэадзённік.
**19.30** «Золата». Канцэрт.
**21.00** Панарама.
**21.40** Баявік «Сутычка» (ЗША).
**00.40** Дзень спорту.

### АНТ

**07.00** «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Мая жонка мяне прычаравала». Шматсерыйны фільм.
**09.40** «Здароўе».
**10.25** «Смак».
**11.05** «Разумніцы і разумнікі».
**12.00** Фільм «Турэцкі гамбіт».
**14.20** «Хвіліна славы».
**16.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Ералаш.
**16.30** Фільм «Вій».
**18.00** «Адмысловае заданне».
**19.10** Прэм'ера. «Акадэмія талентаў».
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера. «Кубак прафесіяналаў».
**22.55** Драма «Растуленыя абдымкі».
**01.00** Камедыя «Гараж».

### СТБ

**07.00** «Далёкія сваякі».
**07.20** «Салдаты. Дзембельскі альбом». Серыял.
**09.00** «Небяспечны месяц».
**09.30** «Я - вандроўца».
**09.50** «Чыстая праца».
**10.35** «Мінск і мінчане».
**11.10** Фільм «Таткі». Францыя, 1983 г.
**12.50** «Прыгоды дылетанта».
**13.35** Фільм «Баламут». СССР, 1978 г.
**15.10** «Ваенная таямніца».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Наша справа».
**17.00** «Вялікі горад».
**17.40** Фільм «Адзін у навагоднюю ноч». 2006 г. 1-я серыя.
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ-спорт».
**20.10** Фільм «Пастка». ЗША - Германія- Вялікабрытанія, 1999 г.
**22.20** Прэм'ера: «Вячэрні квартал-95».
**00.00** Фільм «Экстракт». ЗША, 2009 г.

### Беларусь 2

**07.55** Дабравест.
**08.20** Мір вашай хаце.
**08.30** Камедыйная меладрама «Першая дачка краіны» (ЗША).
**10.20** Пра мастацтва.
**10.50** Тэлебарометр.
**10.55** Школа рамонту.
**11.55** Пад грыфам «Вядомыя».
**12.30** Шоў «Інтуіцыя».
**13.30** Наперад у мінулае.
**14.05** Беларуская кухня.
**14.40** Біятлон. Кубак свету. Эстафета. Жанчыны. Прамая трансляцыя.
**16.05** «Смех з дастаўкай на дом».
**17.10** Біятлон. Кубак свету. Гонка з масавым стартам. Мужчыны. Прамая трансляцыя.
**18.15** Гістарычная меладрама «Сказ пра то, як цар Пётр арапа ажаніў» (СССР).
**20.00** Бітва экстрасэнсаў.
**21.00** КЕНО.
**21.05** Тэлебарометр.
**21.10** Бітва экстрасэнсаў.
**22.10** Гістарычная драма «Джон Ф.Кэнэдзі: Стрэлы ў Даласе» (ЗША- Францыя).
**01.20** Шоў «Інтуіцыя».

### МИР

**06.00, 03.40** Д/ф «Калі дрэвы былі вялікімі».
**06.50** «Даведнік».
**07.20, 04.40** М/ф «Прыміце выклік, Сіньёры!».
**08.55** М/с «Прыгоды Мумі Троля».
**09.15** «Мільён пытанняў аб прыродзе».
**09.30** «Прыгоды Компаса і Будзільніка».
**09.45** «Эксперыментатары».
**10.00, 16.00** Навіны Садружнасці.
**10.10** «Мары! Дзейнічай! Будзь!».
**10.40** «Формула поспеху».
**11.10** «Таямніцы манежа».
**11.40** Т/с «Восеньскі дэтэктыў».
**14.00** Д/с «Доказы віны».
**15.00** «Правілы жыцця».
**16.10, 01.45** М/ф «Ад сябе да сабе».
**18.10** М/ф «Ом Шанці Ом».
**21.10** «Навіны садружнасці. Культура».
**22.00** М/ф «Чэ Гевара».
**00.00** Міжнародны турнір па футболе «Кубак садружнасці - 2012».

### Discovery Channel

**06.00** Ствары матацыкл.
**06.55** Аўтальянцы: серыя 9.
**07.20** Аўтальянцы: серыя 10.
**07.50, 23.00** Вугаль: серыя 1.
**08.45, 01.00** Рыба-меч: жыццё на гапліку.
**09.40** Грандыёзныя пераезды: серыя 1.
**10.35** Гігацкія будоўлі.
**11.30, 01.55** Лесапавал на балотах: серыя 12.
**12.25** Выжыць любым коштам.
**13.20** Півавары.
**14.15** Машына будучыні.
**15.10** Махінатары: Bel Air.
**16.05** Патрабуецца зборка: серыя 37.
**16.30** Як гэта зроблена?: серыя 2.
**17.00** Пен і Тэлер, праўда і хлусня: серыя 4.
**18.00** Разбуральнікі легенд.
**19.00** Чаму? Пытанні светабудовы: серыя 2.
**20.00, 04.10** Машына будучыні.
**21.00, 05.05** Махінатары: Jag e-Type.
**22.00** Аўтальянцы: серыя 11.
**22.30** Аўтальянцы: серыя 12.
**00.00** Залатая ліхаманка: серыя 1.
**02.50** Выжыць разам.
**03.45** Патрабуецца зборка: серыя 35.

### Eurosport

**01.00** Тэніс: Турнір Вялікага Шалома. Адкрытае першынство Аўстраліі. Дзень 5.
**02.15** Аўта і Матаспорт:.
**02.30** Тэніс.
**03.00** Тэніс: Турнір Вялікага Шалома. Адкрытае першынство Аўстраліі. Дзень 6.
**05.00** Тэніс: Турнір Вялікага Шалома. Адкрытае першынство Аўстраліі. Дзень 6.
**11.00** Тэніс: Турнір Вялікага Шалома. Адкрытае першынство Аўстраліі. Дзень 6.
**13.30** Горныя лыжы: Кубак свету. Хуткасны спуск Мужчыны.
**15.00** Тэніс: Турнір Вялікага Шалома. Адкрытае першынство Аўстраліі. Дзень 6.
**16.30** Біятлон: Кубак свету. Антхольц - Жаночая эстафета.
**17.15** Біятлон: Кубак свету. Антхольц.
**18.00** Лыжныя гонкі: Кубак свету.
**18.30** Скачкі на лыжах з трампліна: Кубак свету.
**20.15** Тэніс.
**20.45** Снукер: Мастэрс. Лондан.
**21.15** Футбол: Кубак Афрыканскіх Нацый.

### Белсат

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Гарачы каментар.
**07.35** «Інстынкт», дэтэктыўны серыял.
**08.20** «Мікі Моль і Страшны Плашч», анімацыйны фільм: 4 серыя.
**08.45** Калыханка для самых маленькіх.
**09.15** Невядомая Беларусь: «Зямля», дак. фільм, 2010 г., Беларусь.
**09.50** Еўропа сёння.
**10.15** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**10.40** ПраСвет.
**11.05** Хто ёсць кім?: «Антон Астаповіч: каб ведалі, адкуль наш род!», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**11.25** «Ліст з Малдовы», дак. фільм, 2009 г., Румынія.
**11.55** Вагон.
**12.00** «Мікі Моль і Страшны Плашч», анімацыйны фільм: 4 серыя.
**12.30** Калыханка для самых маленькіх.
**12.55** Невядомая Беларусь: «Зямля», дак. фільм, 2010 г., Беларусь.
**13.30** Еўропа сёння.
**13.55** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**14.25** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**14.50** «Журэк», маст. фільм, 2003 г., Польшча.
**16.00** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**16.10** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**16.30** «Ліст з Малдовы», дак. фільм, 2009 г., Румынія.
**17.00** «Доктар Марцін», серыял: 9 серыя.
**17.45** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.05** «Парад пераможцаў», дак. фільм, 2007 г., Польшча.
**18.55** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**19.10** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**19.45** Калыханка для самых маленькіх.
**19.55** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**20.25** Беларускія лёсы: «Чырвоны беларус», дак. фільм.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.15** Два на два (тэледыскусія).
**21.40** Суботні сеанс: «Коні і Карла», маст. фільм, 2003 г., ЗША.
**23.10** «Мент», дэтэктыўны серыял: 5 серыя.
**00.15** Аб'ектыў.

## 22 студзеня, нядзеля

### Беларусь 1

**07.00** Прыгодніцкая камедыя «Фанфан-Цюльпан» (Францыя).
**08.30** «Усё як мае быць!» Забаўляльная праграма.
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.45** Медычныя таямніцы.
**10.20** Да цешчы на бліны.
**10.55** Серыял па выходных. «Сваты».
**12.10** Меладрама «Зімовая вішня» (СССР).
**13.55** Мультфільм.
**14.15** Клуб рэдактараў.
**15.10** Навіны рэгіёна.
**15.30** Тэлефільм АТН «Клічаў» цыклу «Зямля беларуская».
**15.45** Дак. серыял «У пошуках скарбаў».
**16.40** Дак. цыкл «Зорнае жыццё».
**17.35** Хакей для ўсіх.
**18.15** Суперлато.
**19.05** Крымінальная камедыя «Праклён нефрытавага скарпіёна» (ЗША).
**21.00** У цэнтры ўвагі.
**21.55** «Еўрафэст». Відэадзённік.
**22.10** Трылер «Не кажы ні слова» (ЗША).

### ОНТ

**07.00** «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь.
**09.20** «Мая жонка мяне прычаравала». Шматсерыйны фільм.
**09.55** «Шалапутныя нататкі».
**10.15** Пакуль усе дома.
**11.10** Фазэнда.
**11.45** Фільм «Кін-дза-дза!».
**14.00** Прэм'ера. «Я тройчы пачынала жыццё з нуля».
**15.00** «Я нясу ў далонях святло». Канцэрт.
**16.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Ералаш.
**16.35** «Эстрадны кактэйль».
**17.45** Прэм'ера. «У чорным-чорным пакоі…».
**18.55** Прэм'ера. «Першы клас».
**20.00** Контуры.
**21.05** Прэм'ера. Камедыя «Цяжарны».
**22.40** Прэм'ера. «Вечар музыкі».
**00.15** Фільм «Тэорыя хаосу».

### СТВ

**07.00** «Далёкія сваякі».
**07.20** «Салдаты. Дзембельскі альбом». Серыял.
**09.00** «Аўтапанарама».
**09.30** «Відавочнік прадстаўляе: самае смешнае».
**10.20** «Вялікі сняданак».
**11.00** Фільм «Пастка». ЗША - Германія- Вялікабрытанія, 1999 г.
**13.00** «Добры дзень, доктар».
**13.30** Фільм «31 чэрвеня». СССР, 1978 г.
**15.50** Ток-шоў «Такі лёс».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Пяць гісторый».
**17.20** Фільм «Адзін у навагоднюю ноч». 2006 г. 2-я серыя.
**19.00** «Аўтапанарама».
**19.30** «Тыдзень».
**20.40** Фільм «Алігарх». Расія - Германія-Францыя, 2002 г.
**22.55** «Накаўт-шоў».
**00.00** Фільм «Пра вырадкаў і людзей». Расія, 1998 г.

### Беларусь 2

**07.10** Прыступкі Веры.
**07.30** Таямніца Душы.
**07.55** Кожны мае права быць розным.
**08.20** Гістарычная меладрама «Сказ пра то, як цар Пётр арапа ажаніў» (СССР).
**10.05** Тэлебарометр.
**10.10** Гаспадар.
**10.40** Школа рамонту.
**11.40** «Вышэй за дах». Музычна-забаўляльная праграма.
**12.15** Шоў «Інтуіцыя».
**13.15** Бухта капітанаў.
**13.55** Біятлон. Кубак свету. Гонка з масавым стартам. Жанчыны. Прамая трансляцыя.
**14.45** Кінаспробы.
**15.15** Камедыйная меладрама «Самотным даецца інтэрнат» (СССР).
**16.55** Біятлон. Кубак свету. Эстафета. Мужчыны. Прамая трансляцыя.
**18.55** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм'ер-ліга. Прамая трансляцыя.
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.10** Навіны надвор'я.
**21.40** Камедыйны баявік «Таксі-3» (Францыя).
**23.15** Хакей. КХЛ. Матч усіх Зорак.
**01.10** Шоў «Інтуіцыя».

### МИР

**06.00** Д/ф «Маналогі пра Іллю Авербаха».
**06.50** «Смачны свет».
**07.20, 04.10** М/ф «Прыміце выклік, Сіньёры!».
**08.55** М/с «Прыгоды Мумі Троля».
**09.15** «Мільён пытанняў аб прыродзе».
**09.30** «Прыгоды Компаса і Будзільніка».
**09.45** «Эксперыментатары».
**10.00, 16.00** Навіны Садружнасці.
**10.10** «Ведаем рускую».
**11.10, 05.25** «Даведнік».
**11.40** Т/с «Восеньскі дэтэктыў».
**14.00** Д/с «Доказы віны».
**15.00** «Правілы жыцця».
**16.10** Канцэрт.
**17.30** «Простыя лікі».
**18.00** Т/с «Каханне і іншыя дурасці».
**21.00** Выніковая праграма «Разам».
**22.00** М/ф «Аб бедным гусары замоўце слова…».
**01.00** «Паўночнікі».
**01.40** М/ф «Матацыклістка».
**03.20** «Навіны садружнасці. Культура».

### Discovery Channel

**06.00** Вокамгненныя катастрофы: серыя 51–52.
**06.55, 02.50** Новы свет.
**07.50, 13.20, 20.00, 01.55** Разбуральнікі легенд.
**08.45** Патрабуецца зборка: серыя 38.
**09.10** Як гэта зроблена?: серыя 3.
**09.40** Залатая ліхаманка: серыя 1.
**10.35** Вугаль: серыя 1.
**11.30** Выжыць разам.
**12.25** Пен і Тэлер, праўда і хлусня: серыя 4.
**14.15** Чаму? Пытанні светабудовы: серыя 2.
**15.10, 17.00, 18.00, 19.00** Выжыць любым коштам.
**16.05** Піваварны.
**21.00** Хлопцы з гарматамі.
**22.00** Нічога асабістага.
**23.00** Рос Кемп: экстрэмальны свет: серыя 1.
**00.00** Дэмантаж.
**00.30** Дэмантаж.
**01.00** Лесапавал на балотах: серыя 12.
**03.45** Патрабуецца зборка: серыя 36.
**04.10** Кітай: самыя вялікія вадаправоды ў свеце.
**05.05** Грандыёзныя пераезды: серыя 1.

### Eurosport

**23.30** Снукер: Мастэрс. Лондан.
**01.00** Футбол: Кубак Афрыканскіх Нацый.
**02.00** Тэніс: Турнір Вялікага Шалома. Адкрытае першынство Аўстраліі - Дзень 6.
**02.30** Тэніс.
**03.00** Тэніс: Турнір Вялікага Шалома. Адкрытае першынство Аўстраліі - Дзень 7.
**05.00** Тэніс: Турнір Вялікага Шалома. Адкрытае першынство Аўстраліі - Дзень 7.
**11.00** Тэніс: Турнір Вялікага Шалома. Адкрытае першынство Аўстраліі - Дзень 7.
**16.30** Горныя лыжы: Кубак свету. Слалам Мужчыны.
**17.00** Біятлон: Кубак свету. Антхольц - Мужчыны Эстафета.
**18.30** Біятлон: Кубак свету. Антхольц.
**19.00** Футбол: Кубак Афрыканскіх Нацый.
**21.00** Тэніс.
**21.30** Снукер: Мастэрс. Лондан - Фінал.

### Белсат tv

**07.00** Аб'ектыў .
**07.15** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма) .
**07.45** «Доктар Марцін», серыял: 9 серыя.
**08.30** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма) .
**08.40** Калыханка для самых маленькіх .
**09.10** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**09.30** «Апантаныя», дак. цыкл: 7 серыя.
**09.40** Сальда (эканамічная праграма).
**10.00** Два на два (тэледыскусія).
**10.25** «Парад пераможцаў», дак. фільм, 2007 г., Польшча.
**11.15** Форум (ток-шоу).
**12.00** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**12.25** «Тэра постсаветыка. Мода», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**12.55** Калыханка для самых маленькіх.
**13.20** Беларускія лёсы: «Чырвоны беларус», дак. фільм.
**13.50** «Коні і Карла», маст. фільм, 2003 г., ЗША.
**15.25** «У пошуку ідышу», дак. фільм, 2008 г., Беларусь.
**17.00** Прэс-экспрэс (агляд медыяў).
**17.15** «Таямніца крэпасці шыфраў», тэлесерыял: 10 серыя.
**18.00** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**18.20** Два на два (тэледыскусія).
**18.50** «Таямніцы Ватыкану», дак. серыял: 6 серыя.
**19.15** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**19.35** Калыханка для самых маленькіх.
**19.45** Дакументальная гадзіна: «Крама ў Дзукіі, Літва», дак. фільм, 2006 г., Германія–Францыя.
**20.15** Дакументальная гадзіна: «Крама ў Парыжы. Усходняя бакалея «У Хэрач'Яна»», дак. фільм, 2006 г., Германія.
**20.50** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**21.00** Тыдзень у «Аб'ектыве».
**21.40** Эксперт (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**22.15** Фільматэка майстроў: «Навука сну», маст. фільм, 2006 г., Францыя.
**23.55** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы (сатырычная праграма).
**00.05** Тыдзень у «Аб'ектыве».
**00.45** Прэс-экспрэс (агляд медыяў).

## Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма набыць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час» і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). Нашы рэквізіты: **рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

Акрамя таго падпісацца можна ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:

Магілёў: (8 029) 604 34 57, Юрый;
Мінск: (8029) 178 31 68 Вольга;
Бабруйск: (8029) 628 75 01 Вольга;
Слуцк: (8044) 755 66 48 Марына.

БЕЛПОЧТА

ф. ПС 112

ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ
почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ______________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись

## Паважаныя чытачы!

З новага 2012 года мы вымушаны ўзняць падпісны кошт аднаго нумара газеты да 1200 руб., аднаго месяца — 4800 руб. Дзякуй, вам, за рзуменне і падтрымку!

Запрашаем да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.

**Даведка па тэл.: (8 029) 651 21 12.**

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739

УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик

Пеня
Всего

Кассир

КІНО

# ЖАЛЕЗНАЯ ФЕМІНІСТКА

Алег НОВІКАЎ

**Фільм «Жалезная лэдзі» з мегазоркай Мэрыл Стрып, прэм'ера якога адбылася напрыканцы снежня, ператварыў вобраз Маргарэт Тэтчэр з заўзятай антыкамуністкі ў флагмана фемінізму.**




Добра знаёмы беларусам лорд Цім Бэл, які задоўга да таго, як пачаў піярыць Лукашэнку, займаўся іміджам Тэтчэр, застаўся карцінай незадаволены. Ён назваў яе «смеццем» і сказаў, што ўвесь сцэнар прыдуманы і напісаны пад актрысу Мэрыл Стрып, якая выконвае галоўную ролю.

Сэр Бэл мае рацыю. «Жалезная лэдзі» — другі фільм 53-гадовай Філіды Ллойд. Да гэтага яна зняла пасяховы, пабудаваны на хітах гурта «АВВА» мюзікл «Мамма мія», дзе вядучую ролю выконвала ўсё тая ж Мэрыл. Хутчэй за ўсё, па заканчэнні працы над мюзіклам рэжысёр і акторка дамовіліся працягнуць супрацоўніцтва. Так і нарадзілася ідэя стварэння «Жалезнай лэдзі».

Хаця сама Філіда адмаўляецца ад такой версіі. Па яе словах, ёй даўно хацелася зрабіць нейкі сучасны «кавер» шэкспіраўскага караля Ліра — кінасагу пра чалавека, які ў жыцці дасягнуў усяго, каб напрыканцы аказацца забытым і кінутым усімі. Тэтчэр сапраўды чымсьці падобная на шэкспіраўскага персанажа. Былы кіраўнік Вялікабрытаніі жыве амаль ізалявана. Прэса і грамадства яе не песцяць: бачаць ва ўсіх сучасных эканамічных правалах наступствы яе рынкавых антысацыяльных рэформаў. У дадатак сама Маргарэт пакутуе на слабую памяць. Яе дачка Кэрал сведчыць: «Яна (маці) забывае, што ела на сняданак, лічыць жывым памерлага мужа, размаўляе з ім і не памятае адрас уласнага дома».

Тэма размоў Маргарэт з быццам жывым мужам была ахвотна выкарыстана аўтарамі фільму. Паводле сюжэта, Маргарэт нечакана бачыць фантом мужа і падчас размовы з ім пачынае ўзгадваць іх раман. Пасля ў форме наратыўнага апавядання ў памяці ўсплываюць іншыя позніх фрагменты жыцця баранесы.

Аднак у выніку «Караля Ліра» ў Філіды Ллойд не атрымалася. Магчыма, таму, што кароль Лір жыў у феадальны час, калі не было прафсаюзаў, парламенту з левай апазіцыяй, ірландскіх рэспубліканцаў і г.д. Затое яны існавалі ў часы прэм'ерства Тэтчэр і вельмі яе не любілі. Не дзіўна, што задоўга да прэм'еры «Жалезнай лэдзі» былыя апаненты Тэтчэр пабачылі ў фільме спробу рэабілітацыі ненавіснага палітыка і яе спадчыны.

Іх падазрэнні спраўдзіліся. Мэрыл Стрып зрабіла дастаткова прывабны вобраз экс-прэм'ера. Настолькі прывабны, што газета «Times» дае 80 працэнтаў на тое, што за «Жалезную лэдзі» Мэрыл дадуць Оскара як лепшай актрысе. Тэтчэр, якую выканала Стрып, — гэта ўпэўненая ў сабе жанчына, якая ў асяродку слабых і палахлівых мужчынаў паслядоўна ідзе да сваёй мэты. Што да сцэнаў са старой бабулькай, якая ў прыпадку памутнення розуму размаўляе з нябожчыкам-мужам, яны дадаюць партрэту Маргарэт сентыментальныя рысы. Як піша «The Wall Street Journal», сапраўдная Тэтчэр, якая была вельмі халодная і не мела пачуцця гумару, змякчылася ў руках Стрып да такой ступені, што нават тыя, хто меў на яе адрас варожыя сентыменты, спачуваюць і шкадуюць яе».

Левыя адразу абрынуліся на такую трактоўку Жалезнай лэдзі. Вядучы рупар левай прэсы «The Guardian» адзначае: «Жалезная лэдзі — гэта не толькі ўкладка валасоў фенам. Тэтчэр у фільме — гэта Тэтчэр без тэтчэрызму… Гэта выразны палітычны мэсідж. Ёсць пагроза, што для людзей маладзей за 40 гадоў, якія не памятаюць тыя часы, вобраз Тэтчэр можа быць такім, як яго выканала Мэрыл Стрып». Левыя згадалі ўсе хібы Мэгі: дэіндустрыялізацыю краіны, вынікам чаго стала сацыяльная дэградацыя рэгіёнаў, падтрымка дыктатуры Піначэта і рэжыму Апартэіду ў Паўднёвай Афрыцы, ліквідацыю мясцовага самакіравання, першыя ў гісторыі краіны выпадкі ўжывання спецназу супраць забастоўшчыкаў і маніфестантаў, прыняцце закона Prevention of Terrorism Act, які патрабаваў даносіць на ўсіх, хто сімпатызуе ідэі аб'яднання Ірландыі і г.д.

Некаторыя нават пішуць, што фільм Ллойд — гэта пачатак апрацоўкі грамадскай свядомасці, каб падрыхтаваць яго да пахавання Тэтчэр на дзяржаўным узроўні. Нагадаем, што такога ўшанавання дабіўся ў мінулым стагоддзі толькі адзін прэм'ер — Уінстан Чэрчыль. Брытанскія левыя лічаць, што Маргарэт Тэтчэр, у адрозненні ад Уінстана Чэрчыля, не вартая пахавання за дзяржаўны кошт, паколькі яна хутчэй раскалола брытанскую нацыю, чым аб'яднала яе.

Аднак паслядоўныя правыя таксама не пляскаюць у ладкі прадукту творчага тандэму Ллойд і Стрып. Па-першае, усё былое атачэнне Тэтчэр, уключаючы Ціма Бэла, выступае супраць прымітывізацыі гісторыі. Апаратчыкі ніколі не быў расколаты па гендэрным прынцыпе. Па-другое, неяк не этычна з пункту гледжання кансерватыўнай хрысціянскай маралі здымаць фільм пра яшчэ жывога чалавека, які пакутуе на псіхічную хваробу. Хаця б з улікам павагі да яго родных. Дарэчы, блізкія і родныя Тэтчэр, уключаючы яе дзяцей Марка і Кэрэл, заявілі, што фільм — «гэта нейкая левая фантазія». Кансерватыўны прэм'ер Дэвід Кэмеран (дарэчы, у фільме ёсць эпізод пра яго, калі той быў яшчэ школьнікам) заклікаў адкласці пракат фільма да смерці Тэтчэр. Ёй, дарэчы, зараз 86 гадоў. А вось паслядоўным «тэтчэрыстам» кадры з бабуляй не спадабаліся з іншай прычыны. Трызненні старой на экране разбураюць індывідуальны партрэт Маргарэт Тэтчэр як рашучага чалавека з моцнай воляй.

Аднак найбольш цікавыя дэбаты выклікаў «феміністкі вобраз Тэтчэр». Брытанскія актывісткі за правы слабага полу перасварыліся, дыскутуючы, ці была Тэтчэр феміністкай, як малюе яе Мэрыл Стрып.

«Так», — кажуць адны і прыводзяць наступныя аргументы: «Ніякая брытанская жанчына не здолела дасягнуць столькі, колькі яна. Будучы прыналежнай да слабага полу, яна прайшла праз усе сацыяльныя бар'еры, каб заняць самую высокую дзяржаўную ўстанову. Жанчыны, якія кажуць пра тое, што Маргарэт Тэтчэр не была феміністкай, таму што яна ніколі пра гэта не казала, забываюць, што Тэтчэр нармалізавала жаночы поспех. Яна паказала, што хоць у жаночай улады і мужчынскай улады могуць быць розныя мовы, розныя метафары, розныя жэсты, розныя традыцыі, розныя спосабы быць чароўнымі ці ненавіснымі, яны — аднолькава моцныя. Ніхто пасля Тэтчэр ніколі не можа падвяргаць сумневу, ці здольныя жанчыны да эфектыўнага лідарства. Яна — вялікая незаўважаная гераіня брытанскага фемінізму».

А вось іншы погляд: «Маргарэт Тэтчэр стала лідарам кансерватыўнай партыі, калі жаночы рух быў у зеніце. Але яна заўсёды была па той бок кампаній за правы жанчын. Яна была жанчынай сярэдніх гадоў са смешным капялюшыкам, высокім голасам і іміджам палітыка, які не меў нічога агульнага з лозунгамі за права на аборт або роўную аплату працы. Для Тэтчэр ідэалам жанчыны было мець багатага мужа і двух дзяцей. Тое, што яна займала пасаду прэм'ера, супярэчыла прынцыпам фемінізму. Тады феміністкі называлі яе «мужчынам у спадніцы». Яна была адной з тых ракавых жанчын у гісторыі, кшталту жонак або каханак рымскіх імператараў, якія дзялілі ўладу з моцным полам. Нешта накшталт Мадонны на Даўнінг-стрыт».

Між тым, пакуль феміністкі спрачаюцца, некаторыя жаночыя часопісы пачалі дыскусію наконт таго, ці можна зрабіць гардэроб Маргарэт Тэтчэр піскам сучаснай моды.

Застрэльшчыкам стаў амерыканскі часопіс «Harper's Bazaar». Ён прапанаваў насіць увосень і зіму 2012 касцюмы а-ля Тэтчэр. Гэта паліто ад Valentino сіняга колеру — афіцыйнага колеру Кансерватыўнай партыі Вялікабрытаніі, славутая чорная тэтчэраўская сумка Prada, дзелавы гарнітур з 80-х ад Ralph Lauren і Oscar de la Renta, блузка з бантам на каўняры ад Derek Lam, туфлі на абцасах ад Ferragamo. Праўда, дазволіць сябе такі гардэроб могуць толькі заможныя людзі.

## ЯНЫ ПРА НАС: ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

У найноўшыя часы адкрыўся яшчэ адзін парадокс: чым больш запатрабаваны быў Быкаў на расійскім кніжным рынку, тым цяжэй станавілася яму надрукавацца пры Лукашэнку. І хоць у апошнія гады пісьменнік быў правадыром беларускага нацыянальнага руху, прытулак яму дала тая краіна, супраць якой ён чатыры гады ваяваў, — Германія.

**Русская служба «Радио Свобода» (Чэхія)**

Дамовіліся з Бацькам як закаханыя: ён аддаў «Газпраму» свой «Белтрансгаз» і атрымаў перадышку ў газавай вайне з Расіяй. За гэта Аляксандра Рыгоравіча перасталі тыраніць па расійскіх каналах і папракаць яго за наезды на апазіцыю, таямнічыя знікненні былых паплечнікаў і іншую «макруху». Сапраўды, «сукін сын», але свой жа».

**«Ежедневный журнал» (Расія)**

Надзеі 2011 года ўсяляюць новыя надзеі на год 2012-ы. Нечакана заявіла пра сябе апазіцыя ў Расіі. Праблемы Пуціна ў Крамлі могуць рыкашэтам стукнуць па апошнім дыктатары Еўропы — Аляксандру Лукашэнку. А адраджэнне апазіцыі ў гэтай частцы Еўропы можа спрыяць зменам ва Украіне.

**«Главком» (Украіна)**

У рамках адной эканамічнай фармацыі — ЕЭП, будуць функцыянаваць дзве мадэлі, якія сутыкаюцца паміж сабой у рамках аднаго эканамічнага арганізма: рынкавы (расійскі і казахстанскі) і камандна-адміністратыўны (беларускі). Пры гэтым беларускі будзе імкнуцца і далей паразітаваць на расійскіх прэферэнцыях. Гэта сітуацыя немінуча прыйдзе ў супярэчнасць з дзейснымі ў ЕЭП нарматыўнымі дакументамі.

**REGNUM (Расія)**

З першага дня новага года, паводле рашэння ўрада, мінімальная месячная заработная плата стане роўная мільёну беларускіх рублёў. З гэтага часу кожнаму дысцыплінаванаму працаўніку, які выконвае «нормы працы», любы працадаўца мусіць плаціць не менш за гэту суму. Незалежныя аналітыкі адзіныя ў меркаванні: цяжар непазбежнага «падганяння» зарплаты да крытычнага росту коштаў улады перакладаюць на плечы працадаўцы. Гэта прапагандысцкі мільён. Мільён, які людзі павінны ўбачыць па тэлевізары пад каментар, як добра жыць у краіне.

**BBC (Вялікабрытанія)**

Цяпер малады спецыяліст пасля ВНУ атрымлівае не больш за 200 долараў. Паводле плану ўраду, рост зарплаты за год прадугледжаны на 3%. Гэта значыць, у наступным годзе наш малады спецыяліст атрымае 206 долараў. І для таго, каб дайсці да параўнальнай па ўзроўні адукацыі і кваліфікацыі расійскай зарплаты, патрэбна дзесьці 50 гадоў. Якая выснова? Тут няма чаго рабіць! Няхай тут застаюцца пенсіянеры і дзеці нашых чыноўнікаў.

**«Корреспондент» (Украіна)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### УРУГВАЙ. ВАЙНА ЗА ФАЛЬКЛЕНДЫ ПРАЦЯГВАЕЦЦА




На саміце кіраўнікоў краін блоку Mercosur (Аргенціна, Бразілія, Парагвай і Уругвай) прынята рашэнне не пускаць у парты і гавані згаданых вышэй краін караблі пад сцягам Фальклендскіх (Мальвінскіх) астравоў. Як вядома, гэтыя астравы з'яўляюцца прадметам канфлікту Лондана і Буэнас-Айрэса, што прывяло ў 1982 годзе да сапраўднай вайны. Перамаглі тады брытанцы, аднак аргенцінцы, як сведчыць рашэнне Mercosur, не пакінулі намераў вярнуць сабе архіпелаг. Брытанскі МЗС зрабіў спецыяльны каментар наконт рашэння чацвёркі. На думку брытанскага міністра замежных спраў Джэрымі Браўна, «фактычна гаворка ідзе пра эканамічную блакаду Фальклендаў», што «безадказна». Варта згадаць, што Аргенціна даўно намагаецца заблакіраваць брытанскі анклаў у Паўднёвай Атлантыцы, аднак без падтрымкі Уругвая і Бразіліі гэтыя спробы не мелі сэнсу. Цяпер сітуацыя карэнным чынам мяняецца.

**Паводле іспанскай прэсы**

### УКРАІНА. ХІТ-ПАРАД ГАЗЕТНЫХ «КАЧАК» 2011 ГОДА



Украінская газета «Каментары» зрабіла падборку дутых сенсацый мінулага года, якія так і не перайшлі ў разрад рэальных фактаў. Самай вялікай «качкай» аказалася плётка пра хуткую адстаўку прэм'ера Азарава. Яго кабінет пачалі хаваць аж з мінулай зімы, а Азараў умудрыўся сустрэць Новы год на сваёй пасадзе. Сярод іншых сенсацыйных чутак года: амністыя для Юліі Цімашэнка, ізраільскае грамадзянства сталічнага мэра Леаніда Чарнавецкага, спекуляцыі наконт таго, што Яўгенія Цімашэнка стане палітычнай пераемніцай маці, а былы прэзідэнт Віктар Юшчанка хутка атрымае амерыканскі пашпарт. Самая смешная чутка пра тое, што Януковіч баіцца лётаць на самалётах. Застаецца дадаць, што некаторым выданням перадрукоўка «качак» каштавала выклікаў у суд, аднак пакаранне было хутчэй сімвалічным.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### ФРАНЦЫЯ. КАНАДА – НЕ ФРАНЦУЗСКІ ВЫБАРЧЫ ЎЧАСТАК

Канада і Францыя канфліктуюць. Прычына — новыя правілы галасавання для грамадзян Францыі за мяжой. Цяпер яны будуць не проста галасаваць за кандыдатаў на гістарычнай радзіме, а будуць прыпісаныя да канкрэтнай выбарчай акругі: у Парыжы падзялілі ўсё замежжа на некалькі акруг з улікам колькасці французаў, якія там пражываюць. Напрыклад, узнікла выбарчая акруга Паўднёвая Амерыка. Рэформу амаль ніхто не заўважыў, акрамя Канады, якая раней была французскай калоніяй. На думку канадцаў, узнікае ўражанне, што Канада — гэта тэрыторыя Францыі. Канадскі ўрад ужо заявіў, што не дапусціць, каб мясцовыя французы (іх тут 70 тысяч) былі прыпісаныя да нейкага ўчастка. Чым усё гэта закончыцца, пакуль не зразумела. Калі Парыж упрэцца, то, па логіцы, у дзень выбараў у Францыі Канадзе давядзецца блакіраваць консульствы і амбасаду, дзе будуць знаходзіцца пункты для галасавання.

**Паводле французскай прэсы**

### КІТАЙ. ЦІ БУДЗЕ КАМПАНІЯ СУПРАЦЬ КАСМАПАЛІТАЎ?

З незвычайнай прамовай выступіў Ху Цзыньтао, прэзідэнт Кітаю і лідар мясцовай Камуністычнай партыі. Сярод іншага ён выказаў заклапочанасць працэсамі «вестэрнізацыі» краіны, якая, на яго думку, разбурае нацыянальную культуру. Лідар нацыі заклікаў супрацьстаяць правакацыям Захаду на гэтым полі. Хутчэй за ўсё, кампанія «за кітайскае» будзе мець характар кампаніі супраць дысідэнтаў. Не дарма Ху Цзыньтао падкрэсліў, што за вестэрнізацыяй стаяць варожыя Кітаю сілы, якія мараць падзяліць кітайцаў і аслабіць іх. Праўда, цяжка сказаць, наколькі кітайцы гатовыя абараняць нацыянальную культуру ад касмапалітаў. Справа ў тым, што камуністы, як ніводная іншая палітычная сіла, прыклалі руку да знішчэння культурнай спадчыны Кітаю: у часы культурнай рэвалюцыі сама кітайская нацыянальная культура лічылася «перажыткам феадалізму».

**Паводле французскай прэсы**

---

▸ **МЕРКАВАННЕ**

# РЭВАЛЮЦЫІ НЕ БУДЗЕ

**15 студзеня Казахстан выбірае новы парламент, які цяпер, паводле закону, павінен быць шматпартыйным (зараз усе казахскія парламентарыі — сябры афіцыйнай партыі «Нур Атан»). Ці можна разглядаць гэта як пачатак лібералізацыі ў краіне? Пра гэта журналіст «НЧ» Алег Новікаў размаўляе з Андрэем Грышыным, праваабаронцам з Алма-Аты.**




***— Выбары 15 студзеня — пазачарговыя. Нашто Назарбаеву спатрэбілася распускаць стары парламент?***

— Думаецца, усё лагічна звязана з пазачарговымі прэзідэнцкім выбарамі мінулага года. Папросту наша ўлада імкліва губляе папулярнасць. Плюс падзеі ў арабскім свеце прымушаюць прэзідэнта і яго асяроддзе сур'ёзна пахвалявацца. І ёсць прычыны. У такіх умовах, калі чакаць правядзення выбараў па графіку, можна атрымаць правал і Назарбаева, і яго партыі. Будзе проста немагчыма схаваць спробы фальсіфікацый, што, у сваю чаргу, можа лёгка прывесці да рэвалюцыі па арабскім сцэнары. Таму лепш рабіць выбары зараз, пакуль эканоміка канчаткова не абвалілася, пакуль прэзідэнт і яго партыя маюць больш-менш прыстойны рэйтынг, пакуль, нарэшце, проста холадна. Усё гэта, як мне здаецца, і прывяло да пазачарговых выбараў.

***— На якім эканамічным фоне праходзяць выбары?***

— Эканамічнае падзенне на ўсіх узроўнях, акрамя нафтавага сектара (хоць і там з-за страйку адбылося падзенне здабычы нафты), упэўнена працягваецца ўжо гады два. Але нафтавая галіна — гэта далёка не ўвесь Казахстан. Паколькі ж Казахстан заўсёды ганарыўся тым, што больш астатніх у СНД інтэграваны ў сусветную эканоміку, а асабліва ў банкаўскі сектар, то і плады крызісу прыйшліся на яго ў першую чаргу. Насамрэч, эканоміка ў заняпадзе, і ўлады гэта добра разумеюць, хоць і спрабуюць зрабіць выгляд, нібыта ўсё ідзе так, як і павінна быць.

***— Што ўяўляе сабою афіцыйная партыя «Нур-Атан»?***

— Што можа ўяўляць сабой афіцыйная партыя ў краінах СНД? Тое ж, што і ўсюды. Гэта праект прэзідэнта, прызначаны для таго, каб утрымліваць уладу на ўсіх франтах, у тым ліку і ў парламенце. Калі ўлічыць, што ў партыю «Нур Атан» уваходзяць прыкладна 90 працэнтаў чыноўнікаў на добраахвотнай аснове, і звычайных дзяржслужачых (ужо добраахвотна-прымусова), так што можна сказаць, «Нур-Атан» — партыя чыноўнікаў. А ўлічваючы гіганцкі ўзровень карупцыі, яна нічым ад расійскага аналагу не адрозніваецца — партыя жулікаў і карупцыянераў, як цяпер называюць яе ў апазіцыйных колах.

***— Наколькі выбары сумленныя? Ці выкарыстоўваюць улады адміністратыўны рэсурс? Ці мае апазіцыя доступ да СМІ?***

— На дадзены момант выбарчая кампанія праходзіць досыць сумленна, і ўсе партыі маюць больш-менш роўнае асвятленне і доступ да выбарцаў, хоць, вядома, на гэтым фоне ў «Нур Атан» зноў жа больш прывілеяў. Аднак незадоўга да выбараў па надуманых прычынах была прыпынена дзейнасць Камуністычнай партыі Казахстана — адзінай зарэгістраванай партыі, якая адносіцца да паслядоўнай апазіцыі, а тыдзень таму з перадвыбарнай гонкі знялі партыю «Руханіят». Так што цяпер з усяго спісу партый людзі ведаюць усяго дзве — «Нур-Атан» і канфармісцкую, але ўсё ж прыналежную да апазіцыі Аб'яднаную сацыял-дэмакратычную партыю «Азат». Астатнія ж — не больш чым праекты «Нур-Атан», прыдуманыя ўладай для таго, каб хоць неяк легітымізаваць гэтыя выбары ў вачах міжнародных назіральнікаў.

Што тычыцца СМІ, то рэальна ў апазіцыі толькі доступ ва ўласныя газеты і інтэрнэт. Цяпер, вядома, тэлебачанне таксама паказвае і мерапрыемствы «Азат», але чым бліжэй да выбараў, тым больш негатыўны тон у тэлевізійных сюжэтаў. Гэта значыць, намінальна партыя мільгае ў навінах, але ў якім кантэксце, пытанне ўжо іншае…

***— Чаму знялі з выбараў партыю «Руханіят», якая выступае пад лозунгам «Казахстан для казахаў»?***

— Трэба сказаць, што «Руханіят», і асабліва яе новы кіраўнік Серыкжан Мамбеталін, зрабілі ўсё магчымае, каб не дайсці да фінішу. Насамрэч, рэзкі зварот партыі ад «зялёнай» да нацыяналістычнай рыторыкі мог занепакоіць уладу, паколькі ў партыю ўліліся знакавыя постаці нацыянал-патрыятычнага фронту Казахстана. З іншага боку, самі партыйцы дапусцілі мноства промахаў — і з партыйным з'ездам, і з дакументамі, так што зняць «Руханіят» з гонкі насамрэч нічога не каштавала, і пры гэтым усё зрабіць па законе. Сам Мамбеталін нават не хавае, што набыў гэту партыю ў яе заснавальніцы — Алтыншаш Джаганавай. І, дарэчы, у ліку іншых версій, чаму раптам заснавальнік партыі ўз'елася на Мамбеталіна і запатрабавала прызнаць з'езд несапраўдным, ёсць і такая, што Мамбеталін папросту не выплаціў ёй усёй абяцанай сумы.

***— Што сабой уяўляе лагер ручной апазіцыі?***

— Насамрэч, нічога не ўяўляе. «Ак-жол», «Ауыл», «Адылет», Камуністычная народная партыя Казахстана (створаная ў піку апазіцыйнай Кампартыі), Партыя патрыётаў — усё гэта палітычныя карлікі, якія складаюцца з некалькіх дзясяткаў чалавек, хоць афіцыйна кожная з іх мае мінімальна 50 тысяч чальцоў. Але ўсплываюць яны выключна падчас выбараў, у астатні ж час знаходзяцца ў глыбокай спячцы ці наогул іх няма нідзе, у іх нават няма офісаў і сайтаў.

***— Як падзеі ў Жанаазене паўплывалі на выбарчую кампанію і на апазіцыю? Ці стала яна больш левай?***

— Апазіцыя, натуральна, не палявела, але адбылося іншае: раптам у чарговы раз ліберальная, нацыяналістычная і левая апазіцыя апынулася па адзін бок барыкад, паколькі кожная з іх, хай і са сваіх пазіцый, але лічыць, што ў жанааазенскіх падзеях вінаватая ўлада. Думаецца, падобны пакт скончыцца праз пару месяцаў, і далей яны працягнуць традыцыйныя міжусобныя разборкі.

***— Пішуць, што выбары павінны адыграць нейкую ключавую ролю ў аперацыі «Пераемнік».***

— У Казахстане пасля Жанаазена ўсё перавярнулася з ног на галаву. Раней лічылася, што ў якасці пераемніка Назарбаеў зробіць стаўку на зяця Цімура Кулібаева, мільярдэра, які ўзначальвае фонд Самрук-Казына, якому падпарадкоўвалася і нацыянальная нафтаздабываючая кампанія. Пасля Жанаазена прэзідэнт зняў Кулібаева з яго пасады. Затое зноў усё часцей пачала мільгаць старэйшая дачка Дарыга Назарбаева, якая адышла ў цень пасля таго, як яе муж Рахат Аліеў быў абвешчаны ворагам дзяржавы і збег з краіны. Але ўсё ж, думаецца, калі пераемнік і існуе, то гэта чалавек з бліжэйшага палітычнага асяродку Назарбаева, але не сябра яго сям'і, якая не апраўдвае яго давер.

***— Якія прагнозы вынікаў галасавання 15 студзеня і наступных падзей?***

— Прагнозы стандартныя. Партыя ўлады набярэ 90 працэнтаў. Нейкая з карлікавых праўладных партый пройдзе ў парламент з мінімальнай колькасцю месцаў, як таго і патрабуе закон. Народ успрыме гэта як належнае, АБСЕ апублікуе крытычную справаздачу. І на гэтым усё.

Рэвалюцыі не будзе… Пакуль.

ГЕРОІ

# БІТВА ЗА ЖАННУ

Алег НОВІКАЎ

**Арыгінальна адзначылі французскія палітыкі 600-я ўгодкі нараджэння Жанны д'Арк. Палітыкум перасварыўся па пытанні, хто мае большае права выкарыстоўваць вобраз Арлеанскай дзевы для палітычнага піяру.**



На самай справе, ніхто не ведае, калі дакладна нарадзілася французская гераіня. Вядомы толькі год яе нараджэння — 1412-ы. Аднак у дэкрэце Рымскага Папы Пія X ад 6 студзеня 1904 года, прынятым услед за ўрачыстым пасяджэннем, на якім было вырашана пачаць далучэнне Жанны да ліку святых, была названа і дата яе нараджэння — 6 студзеня.

Яшчэ больш заблытаная гісторыя з Днём Жанны д'Арк. Увогуле, адпаведна рашэнню парламента ад 1919 года, яго святкуюць 8 мая — дзень узяцца Арлеана ў 1429 годзе, пасля чаго Жанну сталі называць Арлеанскай дзевай. Аднак фактычна свята адзначаецца 1 мая. Усё таму, што брэнд Жанны д'Арк ужо 20 гадоў нефармальна належыць Нацыянальнаму фронту, які вырашыў адзначаць свята раней, у якасці альтэрнатывы Першамаю.

Аднак у гэты год манаполія Нацыянальнага фронту на вобраз Жанны аказалася падарваная. Нечакана для ўсіх 6 студзеня ў вёсцы Дамрэмі, дзе нарадзілася Жанна, аказаўся прэзідэнт Нікаля Сарказі. Ён здзейсніў вандроўку на месца, дзе, паводле легенды, гераіня сустрэлася з будучым каралём Карлам. Па дарозе Сарказі ахвотна дзяліўся з журналістамі сваімі поглядамі на спадчыну д'Арк. Ён лічыць, што Жанна «ўвасабляе лепшыя каштоўнасці французскай нацыі і належыць усім французам незалежна ад іх партыйных сімпатый».

Такая нахабнасць выклікала шок у нацыяналістаў, якія сабраліся святкаваць юбілей Жанны ў Парыжы. На думку Жана-Мары Ле Пэна, нельга ўзгадваць пра Жанну толькі з прычыны электаральнай кампаніі (у наступным годзе Францыя абірае прэзідэнта). Ён таксама нагадаў, што прэзідэнцкая партыя «Саюз за народны рух» ніколі не адзначала свята ў гонар Арлеанскай дзевы. Блізкая да Сарказі прэса, наадварот, лічыць, што рэспубліканцы маюць значна больш правоў на Жанну, чым ультраправыя. Адным словам, пачаліся дэбаты, да якога палітычнага лагеру належыць юбілярка. І не першыя ў гісторыі.

**Той факт, што Карл VII ніяк не дапамог Жанне, якая трапіла ў англійскі палон, узмацняў тэзіс пра негатыўную прыроду манархіі**

Сапраўды, задоўга да Ле Пэна рэспубліканцы трактавалі Жанну д'Арк як ідэйна блізкую ім фігуру. Іх тэарэтыкам часоў Французскай рэвалюцыі імпанавала тое, што Жанна, выхадзец з народу, здолела зрабіць тое, што не змог кароль з усімі сваімі міньёнамі — абараніць радзіму.

Той факт, што Карл VII ніяк не дапамог Жанне, якая трапіла ў англійскі палон, узмацняў тэзіс пра негатыўную прыроду манархіі. Нарэшце, проста падарункам для якабінцаў было тое, што народную гераіню адправіла на касцёр царква. Праўда, узнікала праблема з «галасамі». Сама Жанна казала, што яна чуе галасы хрысціянскіх святых. Аднак матэрыялісты спісалі гэта на рэлігійную містыку, распаўсюджаную сярод тагачасных сялян. На іх думку, у дзяўчыны папросту былі галюцынацыі.

Аднак пасля разгрому Напалеона і рэстаўрацыі манархіі акцэнты змясціліся. Урад вырашыў узмацняць палітычную лаяльнасць за кошт каталіцызму. І тут спатрэбілася Жанна д'Арк, якая была фанатычнай верніцай. Нават пад катаваннем адмаўлялася прызнаць сябе ведзьмай, якая здрадзіла Хрысту. Вакол Жанны д'Арк ствараецца сапраўдны культ. У 1849 годзе ў французскіх каталіцкіх колах пачынаецца дыскусія пра неабходнасць далучыць Жанну да ліку святых. Канчаткова гэта будзе зроблена ў 1904 годзе.

Вырашальная бітва за палітычную ідэнтыфікацыю Жанны д'Арк адбылася ў часы Трэцяй рэспублікі. У адказ на ініцыятыву рэспубліканцаў адзначыць сто гадоў па смерці Вальтэра манархісты арганізавалі шэраг маніфестацый, на якіх скандзіравалі: «Няхай жыве Жанна! Няхай жыве кароль».

Такое ўражанне, што тагачасныя прыхільнікі рэспублікі хутка змірыліся з тым, што Жанна — гэта ікона правых. Яны не толькі блакавалі ў парламенце прызначэнне афіцыйнага свята ў гонар Жанны д'Арк, аднак і вялі прапагандысцкую вайну супраць дзяўчыны з Дамрэмі.

Так, аўтары рэспубліканскіх памфлетаў сцвярджалі, што Жанна ніколі не была французскай патрыёткай. Як правіла, Жанна казала, што яна воін Хрыста, а Францыя для яе — улюбёны край Хрыста. Быццам яе перамогі над англічанамі ў гістарычнай перспектыве мелі рэгрэсіўны вынік для гісторыі Францыі. Францыя ў выніку перамогі Карла VII трапіла пад дамінаванне Касцёлу, хаця магла стаць даменам англійскіх манархаў, якія хутка пачалі працэс рэфармацыі і буржуазнай рэвалюцыі.

На старонках левых выданняў карысталіся папулярнасцю альтэрнатыўныя тэорыі пра Жанну д'Арк. Напрыклад, вядомая версія пра тое, што яна была байстручкай нейкага арыстакрата. Пасля нараджэння яна да пэўнага часу жыла ў вёсцы, а пасля яе навучылі байкам пра тыя «галасы» і выцягнулі да дафіна, каб яна натхніла яго на больш актыўныя вайсковыя дзеянні. Гэта версія дазваляе адказаць на некаторыя прабелы арыгінальнай версіі. Чаму Жанна д'Арк магла ездзіць на кані, карыстацца зброяй, весці тэалагічныя спрэчкі і размаўляць на добрай французскай мове?

Капітуляцыя левых у барацьбе за Жанну адчыніла перад правым вялікія гарызонты. Групоўка Action Francaise з усёй вядомай інфармацыі пра Жанну д'Арк сінтэзавала палітычную дактрыну, якая можа аб'яднаць нацыю. Была заснаваная Ліга імя Жанны д'Арк, сябры якой збіраліся гвалтоўным шляхам аднавіць каралеўскі рэжым.

Планы манархістаў сарвала Першая сусветная вайна. Жанна д'Арк стала любімым персанажам вайсковай прапаганды. Нават абмяркоўвалася ідэя стварэння народнага апалчэння імя Арлеанскай дзевы. У гэты час яна губляе рысы выключна куміра ўльтраправых, становіцца сімвалам адзінства. У 1925 годзе прэзідэнт Францыі ўпершыню ў гісторыі наведаў каталіцкую месу ў гонар Жанны д'Арк.

І зноў усё змянілася ў часы Другой сусветнай вайны. Ведамства Гебельса папросту не магло абысці той факт, што Жанна д'Арк змагалася з англічанамі. Пасля таго, як брытанская авіяцыя ў 1944 годзе разбамбіла Руан, дзе спалілі Жанну, там з'явіліся плакаты з выявай Жанны і подпісам: «Злачынцы заўсёды вяртаюцца на месца злачынства».

Не дзіўна, што з такім іміджам пасля вайны Жаннай д'Арк цікавіліся больш ультраправыя. Так, існаваў Альянс імя Жанны д'Арк — вайсковая арганізацыя французскіх каланістаў у Алжыры для барацьбы з дэ Голем. Пасля вобраз Жанны прыватызаваў Ле Пэн.

Ці значаць апошнія выступы Сарказі тое, што пачынаецца новы этап ідэйных прыгод Арлеанскай дзевы і яна хутка зноў будзе «рэспубліканкай»? Адказ на гэта пытанне залежыць ад таго, наколькі сур'ёзна Сарказі і галісты збіраюцца эксплуатаваць напрацоўкі Нацыянальнага фронту, каб захапіць яго электарат.

Хаця пазбавіць Жанну д'Арк арэолу нацыяналісткі будзе цяжка. Прынамсі, Эва Жалі, кандыдат у прэзідэнты ад Зялёных, лічыць бессэнсоўным займацца рэабілітацыяй чалавека, які знішчаў іншых людзей у імя нацыі і Бога. «Давайце скажам шчыра: Жанна д'Арк — гэта герой для нацыяналістаў», — прапануе яна.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### АХМЕД УЯХ'Я



Прэм'ер-міністр Алжыра раскрытыкаваў свайго турэцкага калегу Эрдагана і запатрабаваў неадкладна спыніць прапагандысцкую кампанію ў Турцыі пра «алжырскі генацыд». Усё, нагадаем, з-за таго, што дэпутаты ніжняй палаты французскага парламента 22 снежня 2011 года большасцю галасоў выказаліся за ўвядзенне крымінальнай адказнасці за адмаўленне генацыду армян у Турцыі ў 1915 годзе. Паводле законапраекта, за такое злачынства прапануецца караць годам турмы і штрафам у 45 тысяч еўра. У адказ Анкара абвінавачвае Парыж у арганізаваным французамі генацыдзе алжырскага народа падчас вайны за незалежнасць у 1954–1962 гадах. Прэм'ер Эрдаган нават заявіў: «Прыкладна 15% алжырскага насельніцтва было знішчана французамі пасля 1945 года. Гэта генацыд». Уях'я не адмаўляе факту масавых рэпрэсій арабаў з боку французаў, аднак лічыць, што хто б пра тое казаў, толькі не туркі. Турцыя ў той час была сябрам NATO і аказвала Францыі матэрыяльную дапамогу. Алжырцаў забівалі кулямі турэцкай вытворчасці. Да атрымання Алжырам незалежнасці ў 1962 годзе Турцыя галасавала супраць усіх рэзалюцый ААН, накіраваных на абарону інтарэсаў Алжыра. «Ні ў каго, і тым больш у Турцыі, няма права гандляваць крывёй алжырцаў», — падкрэслівае алжырскі прэм'ер.

### КАРМЕ ЧАКОН



Актывістка Іспанскай рабочай сацыялістычнай партыі (PSOE), былы міністр абароны ў кабінеце Луіса Сапатэра, можа стаць новым лідарам сацыялістаў. Сеньёра Чакон паведаміла пра свае лідарскія амбіцыі 4 студзеня. Галоўным яе праціўнікам будзе Альфрэда Рубакальба, былы дырэктар МУС. Цяжка зразумець, у чым розніца паміж кандыдатамі. Абодва кажуць пра неабходнасць абнаўлення PSOE і пра тое, што не дапусцяць вырашэння праблем крызісу за кошт працоўнага люду. Хіба што Карме выглядае больш сучаснай (ёй 41 год, а Рубакальба — за 60) і крытычней ставіцца да інстытуту манархіі. Магчыма, гэта звязана з тым, што яна вырасла ў сям'і, звязанай з анархісцкім рухам. Яшчэ адна важная дэталь — каталонскае паходжанне Карме. Яна можа стаць першай каталонкай у гісторыі, якая зойме пасаду лідара нацыянальнай партыі. На думку экспертаў, гэта можа прыцягнуць на яе бок галасы секцый PSOE ў аўтаноміях. Кангрэс, які абярэ новага правадыра іспанскіх сацыялістаў, адбудзецца ў лютым.

### ЭМАМАЛІ РАХМОН



Прэзідэнт Таджыкістану і ўся яго вертыкаль намагаюцца выратаваць імідж дзяржавы, які вельмі пагоршыўся пасля навагодніх падзей. Амаль усе вядучыя СМІ планеты паведамілі пра тое, што ў Душанбе ў навагоднюю ноч быў забіты 24-гадовы Парвіз Даўлатбекаў. Адна з версій — забойцам не спадабаўся касцюм Дзеда Мароза, які быў на хлопцы, паколькі гэта сімвал хрысціянскага свята. Некаторыя газеты сцвярджаюць, што ў час збіцця Парвіза атакуючыя выкрыквалі словы: «Ты — няверны». Такая версія цалкам укладваецца ў логіку заявы кіраўніка Рады ўлемаў Таджыкістана, які напярэдадні зімовых святаў заклікаў мусульман краіны не адзначаць Новы год, бо гэта свята з'яўляецца неісламскім. Цяпер прадстаўнікі ўлады аспрэчваюць рэлігійны фактар. На іх думку, злачынства насіла выключна побытавы характар. Забойцы, па іх словах, былі п'янымі хуліганамі. Аператыўна перагледзеў сваю пазіцыю па Новаму году і згаданы кіраўнік улемаў. Ён кажа, што не мае нічога супраць Новага года і Дзеда Мароза, паколькі ў Каране пра іх увогуле не сказана ні слова.

▸ ТАЯМНІЦЫ ГІСТОРЫІ

# ЗАБОЙСТВА ВІЛЬГЕЛЬМА КУБЭ

## (ГІСТОРЫКА-ДАКУМЕНТАЛЬНАЕ ЭСЭ)

Анатоль ВАЛАХАНОВІЧ

◂ Працяг. Пачатак у №№ 42–47, №1

### Пасля забойства

22 верасня пачаліся пошукі ўдзельнікаў забойства Вільгельма Кубэ. Напачатку кінуліся шукаць Алену Мазанік на яе кватэру па Тэатрштрасэ, 48-5. Але дома яе не было. Кватэру ўзламалі і ўбачылі, што ўсе яе рэчы вывезены. Тады накіраваліся на кватэру да яе сястры Валянціны, але і яе не было дома. Потым пошукі пачаліся ў вёсцы Масюкоўшчына, дзе жылі сваякі Валі. Там супрацоўнікі гестапа высветлілі, што ўся сям'я на двух вазах з рэчамі выехала. І тады быў знойдзены ў вёсцы менавіта другі возчык, які ўказаў шлях кірунку сям'і з вёскі Масюкоўшчына і месца прыпынку вазоў у Мінску. Вось чаму тыя свінні і карова каштавалі жыцця некалькіх чалавек. Каб не схапнасць сваякоў Мазанік, можа б, і не знайшлі б іх гестапаўцы.

Напаўшы на правільны след, гестапаўцы арыштавалі Грыбоўскую, а яна ўжо выдала сям'ю Дразда. Вось чаму так хутка было ўсё выведана, высветлена і падрабязна складзена карціна, хто забіў Кубэ.

Пры аглядзе месца забойства, неадкладна прызначанай Вялікай спецыяльнай камісіяй, якая складалася з штурмбанфюрэра СС і крымінал-дарадца Бандорфа (у якасці кіраўніка), а таксама прадстаўнікоў з сектара крымінальнай паліцыі оберштурмфюрэра СС Брэйера і з сектара дзяржаўнай паліцыі — оберштурмфюрэра СС і крымінал-камісара Хайса, у час прасейвання смецця і розных абломкаў былі выяўлены і сабраны матэрыяльныя рэшткі, якія пра многае расказалі аб трагедыі, што разыгралася ў ноч на 22 верасня ў спальні Вільгельма Кубэ.

Цікава паразважаць, а чаму ж нямецкія спецслужбы «праваронілі» ў прамым сэнсе гэтага слова падрыхтоўку да забойства генеральнага камісара Беларусі? Тлумачэнне ёсць. Да яго падштурхоўваюць і аператыўнасць, і хуткасць, з якой камісія Бандорфа выявіла віноўнікаў «тэрарыстычнага акта» і нават дакладна ведала, што жанчыны-бяглянкі знаходзяцца ў лесе, у партызанскім атрадзе і хутка будуць адпраўлены за лінію фронту. Дык чаму ж іх не адбіць у партызан і не пакараць смерцю?

Але дабрацца да партызанскага лагера было не так проста. Папершае, усе партызанскія лагеры размяшчаліся ў лесе і кругласутачна моцна ахоўваліся. А немцы, як вядома, лесу панічна баяліся і ў яго звычайна не заходзілі. Падругое, уся тэрыторыя ў лесе вакол лагера была моцна і шчыльна замініравана. Былі замініраваны грунтовыя, прасёлачныя дарогі і нават усе партызанскія сцежкі, якія ішлі ў балота. Паспрабуй дабярыся да іх. Па-трэціе, у лагер




партызан можна было прайсці толькі з праваднікам і толькі па партызанскіх сцежках. Па іх трэба ісці вельмі асцярожна, каб не падарвацца.

Акрамя таго, здабыткам галоснасці сталі і славянскія выпады Кубэ супраць кіраўнікоў Трэцяга рэйху, што магло яму каштаваць заключэння ў канцлагер, а то нават і шляху на шыбеніцу. Цікава адзначыць, што падобныя чуткі пра «руку СД» у забойстве Кубэ хадзілі і сярод немцаў.

Распавядаюць, што ў Германіі афіцыйная версія забойства Кубэ была такая: Вільгельм Кубэ быў забіты дзяўчынай, якая служыла ў яго доме. Яна была звязана з партызанамі. Паклала пад матрац бомбу ці міну замаруджанага дзеяння, якая ноччу ўзарвалася і забіла Кубэ.

Але неафіцыйна выказваўся і іншы пункт погляду: хто ведае, як дакладна працуе гестапа, той з цяжкасцю мог дапусціць, што каля самога Кубэ магла працаваць дзяўчына, чыя сувязь з партызанамі выслізнула б ад вачэй гестапа. Цікава, як жа маглі бясследна знікнуць дзяўчаты, калі Мінск так моцна ахоўваўся, а яны былі добра знаёмыя гестапа «ў твар». Чаму не былі арыштаваны родныя і блізкія Мазанік, якія маглі б даць на допытах шмат цікавых матэрыялаў, дзе і куды дзеліся іх дачка Галіна і дачка Валянціна і іх памагатая і сяброўка «Марыя Чорная»?

Цікава адзначыць, што гэтыя пытанні ў «Заключительном донесении» не асветлены. Хто ж усё ж даў указанне іх не чапаць? Гэта пытанне засталося без адказу!

Кіруючыся матэрыяламі расследавання, што былі праведзены падобнымі асобнымі камісіямі з нагоды ўзрываў мін у розных важных нямецкіх установах на тэрыторыі Беларусі, оберштурмфюрэр СС Брэйер устанавіў, што ў дадзеным выпадку размова ідзе аб рэштках запаволенай магнітнай міны нявызначанага тэрміну англійскага паходжання.

Тут і надалей я буду спасылацца на «Заключительное донесение по вопросу о покушении на генерального комиссара Белоруссии, гауляйтера, майора запаса Вильгельма Кубе в ночь на 22.09.1943 г.» Я лічу, што гэта «Заключительное донесение…» з'яўляецца найбольш аб'ектыўным, як гістарычны дакумент, у якім усе, як кажуць, кропкі пастаўлены над «і», чым тыя данясенні, што бясконца пісалі і Л.П.Берыя, і Л.Ф.Цанава і П.К.Панамарэнка. І можна толькі здагадвацца, як яны змагаліся, седзячы ў глыбокім тыле, за тое, каб перахапіць чужую славу і так завесці Сталіна, што ён не вытрымаў і, уважліва прачытаўшы ўсе матэрыялы, прадстаўленыя да ўзнагародных лістоў, напісаў такую рэзалюцыю: «Конец ссоре. Девушки получат «героя», остальные ордена».

«Примененная мина, при проверке на месте происшествия, несомненно была установлена примерно за 12 часов на выступающих пружинах матраца металлической кровати гауляйтера Кубе и там взорвалась. За это предположение говорит также характер ранения гауляйтера. Действие мины было ослаблено матрацем и телом гауляйтера. Этим можно объяснить также невредимость его жены», — адзначаецца ў «Заключительном донесении…» — Сведения о жизни и обычаях семьи Кубе и другие важные происшествия, вследствие рода работы Мазаник, легко передавались в Москву. Дрозда и Дуброву необходимо рассматривать как закоренелых коммунистов. Куликова и Сибко использовали в качестве подвижных связных. Находящиеся под арестом родственники Дрозда (жена и дочь) знали о преступной деятельности вышеуказанных лиц.

Липская — соучастница, однако она отклоняла всякую активную разведывательную деятельность. Задержанный в ее квартире Леонид Етишко, 17.8.17 г.р., по расследованию не имеет никакого отношения к делу. Он не имеет постоянного занятия и поэтому вопрос стоит о его использовании на работах. Так же необходимо поступить и с Липской. К арестованным, за исключением Липской и Етишко, я предлагаю применить острейшие средства государственной полиции», — такі запісаны прыгавор у канцы гэтага дакумента і падпісаны Бандорфам, штурмбанфюрэрам СС і крымінал-дарадцам, кіраўніком Вялікай спецыяльнай камісіі.

**Дрозд Мікалай Пракопавіч**

Нарадзіўся ў 1890 годзе ў в. Селішча Навагрудскага раёна. Беларус. Беспартыйны. Да пачатку Вялікай Айчыннай вайны працаваў вартаўніком у Мінску. Гаспадар явачнай кватэры. Удзельнічаў у аперацыі па ліквідацыі В.Кубэ. 23 верасня 1943 года з жонкаю Аленай Адамаўнай і дачкою Рэгінай Мікалаеўнай арыштаваны СД у сувязі з забойствам В.Кубэ. Расстраляны.

**Дрозд Алена Адамаўна**

Нарадзілася ў 1896 годзе. Беларуска. Беспартыйная. Адукацыя пачатковая. Гаспадыня явачнай кватэры. 23 верасня 1943 года з мужам і дачкой арыштавана СД у сувязі з забойствам В.Кубэ. Расстраляная.

**Дрозд Рэгіна Мікалаеўна**

Нарадзілася ў 1923 годзе. Беларуска. Член ЛКСМБ. Да пачатку Вялікай Айчыннай вайны працавала прадаўшчыцай у ГУМе горада Мінска. 23 верасня 1943 года з бацькам і маці арыштавана СД у сувязі з забойствам В.Кубэ. Расстраляная.

**Дрозд Яніна Мікалаеўна**

Нарадзілася ў 1927 годзе ў Мінску. Член ЛКСМБ. З'яўлялася сувязной партызанскага атрада «Дима» Лагойскага раёна Мінскай вобласці.

**Грыбоўская (Дуброва) Марыя Рыгораўна**

Нарадзілася ў 1908 годзе. Беларуска. Беспартыйная. Член Мінскага антыфашысцкага падполля са жніўня 1941 года. Удзельнічала ў аперацыі па ліквідацыі В.Кубэ. 23 верасня 1843 года арыштавана СД. Расстраляная.

**Стэфановіч Вячаслаў Паўлавіч**

Нарадзіўся ў 1913 годзе, у Мінску, беларус, беспартыйны, адукацыя пачатковая. У гады Вялікай Айчыннай вайны з сакавіка 1943 года ў партызанскім атрадзе «Дима». З чэрвеня 1944 года ў нямецкім палоне, у канцлагеры ў гарадах Дрэздэн і Асвальд. У 1945 годзе вызвалены савецкімі войскамі.

**Стэфановіч Аляксандра Якаўлеўна**

Нарадзілася ў 1913 годзе ў Мінску, беларуска, адукацыя пачатковая. 3 верасня 1943 года ў партызанскім атрадзе «Дима».

Муж і жонка Стэфановічы прымалі ўдзел у падрыхтоўцы забойства В.Кубэ. І ў час аблавы ў Мінску пасля забойства В.Кубэ яны цудам змаглі пакінуць Мінск.

**Фурц (Фурс) Мікалай Ігнатавіч**

Нарадзіўся ў 1926 годзе. У гады вайны слесар (паводле іншых звестак — шафёр) у гаражы генеральнага камісарыята Беларусі. Удзельнічаў у падрыхтоўцы і здзяйсненні аперацыі па забойству В.Кубэ. У кастрычніку 1943 года высачаны і арыштаваны нямецка-фашысцкімі акупантамі і пакараны ў засценках СД у сувязі з забойствам В.Кубэ.

**Ліпская Галіна Баніфацьеўна**

Нарадзілася ў 1919 годзе ў сяле Батракі Куйбышаўскай вобласці. Руская, беспартыйная, адукацыя вышэйшая. Да пачатку Вялікай Айчыннай вайны студэнтка 5-га курса Мінскага медыцынскага інстытута. Арыштавана СД 23 верасня 1943 года па справе аб замаху на жыццё В.Кубэ. Вывезена ў канцэнтрацыйны лагер у Германію.

**Зубкоў Уладзімір**

Нарадзіўся ў 1909 годзе, рускі. Да пачатку Вялікай Айчыннай вайны — ваеннаслужачы. У гады вайны працаваў шафёрам. У верасні 1943 года арыштаваны нямецкімі карнымі органамі. Расстраляны.

**Клумава Паліна Мікалаеўна**

Нарадзілася ў 1881 годзе ў горадзе Масква, руская. Адукацыя сярэдняя. У кастрычніку 1943 года арыштавана СД. Загінула ў 1944 годзе ў нямецкай турме.

**Мазнякова-Болагава Таццяна Якаўлеўна («Малая Тоня», «Тоня»).**

Нарадзілася ў 1903 годзе ў горадзе Клімава Бранскай вобласці. Руская. Беспартыйная. Адукацыя пачатковая. Гаспадыня явачнай кватэры. З кастрычніка 1943 года ў партызанскім атрадзе «Дима» Мінскай вобласці.

ДУХОЎНАСЦЬ

# ФІЛАФЕЙ

Сяргей ЧЫГРЫН

**Архіепіскап Філафей (Уладзімір Нарко) вядомы перш за ўсё тым, што ў гады Другой сусветнай вайны ў Беларусі ўдзельнічаў у аднаўленні і фармаванні царкоўнага кіраўніцтва Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы.**

Нарадзіўся Уладзімір Нарко 21 лютага 1905 года ў вёсцы Занарач Мядзельскага раёна. Паводле іншых звестак, ён нарадзіўся ў мястэчку Ілья Вілейскага раёна ў сям'і святара. Яго бацька Еўдакім Нарко служыў у Ільінскай царкве Віленскай епархіі псаломшчыкам і дзяканам, а маці Марыя (дзявочае прозвішча Вялічка) была хатняй гаспадыняй. Нарачоны падчас хрышчэння Уладзімірам будучы ўладыка Філафей з маленства пачаў служыць Хрыстовай Царкве, прыслужваючы з 14 гадоў у алтары свайму бацьку.

Першапачатковую адукацыю Уладзімір Нарко атрымаў дома. Потым вучыўся ў гімназіі Фердынанда Велера ў Вільні. У верасні 1921 года быў залічаны выхаванцам Віленскай духоўнай праваслаўнай семінарыі. А потым працягваў вучобу на багаслоўскім (тэалагічным) факультэце Варшаўскага ўніверсітэта, які скончыў у 1929 годзе.

Праваслаўныя прыходы Польшчы ў той час, нягледзячы на пратэсты патрыярха Ціхана і Архіерыйскага Сінода Рускай праваслаўнай царквы за мяжой, атрымалі царкоўную аўтакефалію ад канстанцінопальскага патрыярха. Магчыма, гэта зрабіла ўплыў на тое, што будучы ўладыка Філафей з 1931 па 1933 гады працягваў адукацыю ў багаслоўскай школе Канстанцінопальскай Патрыярхіі на востраве Халкі. У 1937 годзе ён атрымаў дыплом магістра багаслоўя.

У 1927 годзе ў Пачаеўскай лаўры малады Уладзімір Нарко разам з Антонам Мартасам (1904–1984) быў пастрыжаны ў манахі намеснікам ігумена архімандрытам Дамаскіным. У гэтым жа годзе айцец Філафей быў узведзены ў дзяканскі, а потым у іерэйскі сан. Далей рэлігійны шлях айца Філафея ляжаў у Мюнхен, дзе ён кароткі час служыў святаром, а з 1929 года быў намеснікам настаяцеля манастыра святога Ануфрыя ў мясцовасці Яблачын Варшаўска-Холмскай епархіі. Пэўны час нават выконваў святарскія абавязкі ў Галіччыне, быў начальнікам духоўнай місіі. Пасля Галіччыны Філафея хутка ўзвялі ў сан архімандрыта.

У 1936 годзе ён быў прызначаны інспектарам Варшаўскай духоўнай семінарыі, а потым стаў дацэнтам духоўнага багаслоўя багаслоўскага факультэта Варшаўскага ўніверсітэта. Беларуса хутка выбіраюць намеснікам настаяцеля Варшаўскага кафедральнага сабора, а таксама яго рызнічым. Адначасова ён працуе выкладчыкам багаслоўя ў дзвюх прыватных школах — нямецкай гімназіі і французскім ліцэі. Не забывае святар і пра беларускі прыход у Варшаве, дзе ён служыць другім святаром. А пазней становіцца сябрам Варшаўскай духоўнай кансісторыі.

У гады Другой сусветнай вайны, калі Польшча і Беларусь былі пад нямецкай акупацыяй, мітрапаліт Дзіянісій, які ў той час узначальваў Польскую праваслаўную царкву, лічыў Беларусь у сваёй юрысдыкцыі. Напачатку верасня 1941 года Дзіянісій склікаў Раду Беларускай царквы, каб сур'ёзна вырашыць задачу распаўсюджвання на Беларусь юрысдыкцыі Польскай праваслаўнай царквы. Архімандрыт Філафей з'яўляўся сябрам гэтай рады, і мітрапаліт Дзіянісій рэкамендаваў яго, а таксама архімандрыта Антона Мартаса і архімандрыта Феафана Пратасевіча ў кандыдаты для кіравання беларускімі епархіямі на той беларускай тэрыторыі, якая была вызвалена немцамі ад бальшавікоў. А перад самай вайной Маскоўская Патрыярхія прызначыла мітрапаліта Панцеляймона (Паўла Ражноўскага) экзархам Заходне-Беларускім і Украінскім.

Але мітрапаліты Дзіянісій і Панцеляймон не ўлічылі адну акалічнасць, што гаспадарамі на тэрыторыі Беларусі былі ўсё ж германскія ўлады. І калі ў 1941 годзе на Бацькаўшчыну прыехаў Філафей, то зразумеў, што планам мітрапаліта Дзіянісія немагчыма збыцца. Таму архімандрыт Філафей вырашае застацца на радзіме і дапамагаць мітрапаліту Панцеляймону.

15 лістапада 1941 года Філафей прыбыў у Жыровічы, што на Слонімшчыне. Вечарам таго ж дня адбыўся Сабор епіскапаў Святой праваслаўнай царквы на Беларусі. Архімандрыт Філафей азнаёміў Сабор епіскапаў з паперамі ад мітрапаліта Дзіянісія. Сабор епіскапаў пастанавіў: прызначыць архімандрыта Філафея сябрам Царкоўнага кіраўніцтва ў Жыровічах, хіратанізаваць яго 23 лістапада ў саборным святым Успенскім храме ў Жыровіцкім манастыры ў епіскапа Слуцкага, другога вікарыя мітрапаліта з месцазнаходжаннем у Мінску.

А 30 лістапада 1941 года мітрапаліт Панцеляймон і епіскап Філафей прыбылі ў Мінск. Там іх урачыста сустрэлі беларускія святары, адміністрацыя Мінска разам з Вацлавам Іваноўскім, сябры беларускіх арганізацый і вернікі. Была вялікая надзея, што з прыездам у Мінск мітрапаліта Панцеляймона і епіскапа Філафея царкоўнае праваслаўнае жыццё ў Беларусі нармалізуецца і народ атрымае сваіх беларускіх епіскапаў, святароў і сваю Беларускую аўтакефальную праваслаўную царкву.

Але мітрапаліт Панцеляймон меў у сваіх думках іншую мэту. Ён быў моцным прыхільнікам маскоўскай патрыярхіі, і яму нялёгка было ад яе адарвацца. Ён адкладаў хіратонію ў епіскапы беларускіх кандыдатаў і не пашыраў сваёй духоўнай архіпастырскай дзейнасці па ўсёй мітраполіі. «А епіскап Філафей, — як пісаў у сваёй кнізе «За вольную і суверэнную Беларусь» Дзмітры Касмовіч, — быў слабахарактарным. Ён лавіраваў паміж беларускімі праваслаўнымі патрыётамі і русафіламі з мэтай заняць кіруючае месца ў Беларускай праваслаўнай царкве. Справа беларусізацыі царквы не пасоўвалася наперад».

У сакавіку 1942 года ўладыка Філафей атрымлівае тытул Магілёўскага і Мсціслаўскага, яго ўзводзяць у сан архіепіскапа і прызначаюць намеснікам мітрапаліта Панцеляймона.

2 чэрвеня 1942 года жаўнеры СД на аўтамабілі прымусова адвезлі мітрапаліта Панцеляймона, якога не змаглі пераканаць у неабходнасці беларусізацыі царквы, у манастыр Ляды, які знаходзіўся сорак кіламетраў ад Мінска. Мітрапаліт паспеў толькі падпісаць дэкрэт на імя Філафея наступнага зместу: «З повады свайго выезду з Менска на ўвесь час маёй адсутнасці паручаю Вам усе справы Беларускай Праваслаўнай Мітраполіі. 1.06.1942 года, Менск».

Пасля таго, як мітрапаліт Панцеляймон быў адвезены ў Ляды, актыўна пачалася праца Прадсаборнай камісіі для агалашэння аўтакефаліі Беларускай праваслаўнай царквы. Быў падрыхтаваны Статут Праваслаўнай аўтакефальнай царквы, разгледжана пытанне, хто адкрые Царкоўны Сабор, і іншыя справы. Мітрапаліт Панцеляймон даў пісьмовую згоду, каб Царкоўны Сабор адкрыў яго намеснік Філафей.

У нядзелю, 30 жніўня 1942 года, у Мінску сабраліся беларускія святары і вернікі на Усебеларускі Царкоўны Сабор, каб абвясціць незалежнасць Беларускай Праваслаўнай царквы і прыняць Статут, якім павінна кіравацца царква ў сваёй самастойнай дзейнасці. Перад пачаткам Сабора ў Спаса-Прэабражэнскай царкве адбыўся ўрачысты малебен. Архіепіскап Філафей яго адслужыў у суправаджэнні епіскапа Віцебскага і Полацкага Апанаса, епіскапа Смаленскага і Бранскага Сцяпана і шматлікага духавенства. Потым Філафей адкрыў Сабор, а сакратар Сабора святар Аляксандр Апанасевіч зачытаў спіс яго ўдзельнікаў. У сваёй прадмове архіепіскап Філафей падкрэсліў, што ўсе падставы для існавання аўтакефаліі на Беларусі ёсць: Беларуская царква існуе незалежна ад іншых цэркваў, ёсць іерархіі, епархіі, благачынні, прыходы, створаны курсы для кандыдатаў на святароў і г.д. Неабходна толькі аўтакефалію аформіць.

«Сёння мы тут сабраныя на святы Сабор Беларускае Праваслаўнае царквы, навязваем лучнасць з найпрыгажэйшымі ў гісторыі Беларусі часамі XIII, XIV і XV стагоддзяў. Гэта былі часы вялікае славы і росквіту Беларусі, прыгожыя часы росквіту Беларускае царквы. Тады ўжо былі палажаны фундаменты для яе аўтакефальнасці, для яе незалежнасці. З таго часу мінула многа год, а беларускі народ і праваслаўная царква многа перажылі розных няшчасцяў, крыўдаў, паніжэнняў. Усё ж, аднак, Бог Усявышні не пакідаў нашага народу і зноў даў яму магчымасць арганізавання свайго жыцця рэлігійнага, культурнага, гаспадарчага... Беларусь вызвалена ад бальшавіцкае няволі і пачынае новае жыццё. Мы сюды сабраліся, каб радзіць над справамі нашае Святое Праваслаўнае царквы, над арганізацыяй ейнае працы. Памолімся, каб Усявышні бласлявіў нас і нашую працу», — казаў у сваёй прадмове архіепіскап Філафей, і пра гэта пісаў тыднёвік на Беластоцкай акрузе «Новая дарога» 4 жніўня 1942 года.

А 2 верасня 1942 года Статут Беларускай Праваслаўнай аўтакефальнай царквы быў прыняты. Адначасова была прынята пастанова аб поўнай незалежнасці Беларускай праваслаўнай царквы.

Але ж у далейшым епіскапы не давалі патрэбнага ходу саборным пастановам аб завяршэнні аўтакефаліі. Толькі 20 красавіка 1943 года епіскапы падпісалі лісты да Канстанцінопальскага Патрыярха і да іншых самастойных цэркваў.

Летам 1944 года, калі немцы пачалі адступаць, а Чырвоная Армія пацігу рухалася на Захад, епіскапы Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы (БАПЦ) эвакуяваліся ў Германію. Туды выехаў і Філафей. 5 мая 1946 года ў Рэгенсбургу адбыўся з'езд праваслаўных беларусаў Германіі, дзе абмяркоўвалася некалькі сур'ёзных пытанняў, а таксама пытанне аб пераходзе беларускіх епіскапаў пад юрысдыкцыю Рускай праваслаўнай царквы за мяжой.

Філарэт Родзька (1890–1980) і Аляксандр Орса (1896–1959) сталі перад епіскапамі Філафеем і Апанасам на калені, молячы іх, каб не ехалі ў Мюнхен падпісваць акт аб далучэнні БАПЦ да Рускай праваслаўнай царквы за мяжой. Епіскапы не паслухалі сваіх землякоў. І 6 мая 1946 года ў Мюнхене на архіерэйскім Саборы Рускай праваслаўнай царквы за мяжой епіскапат БАПЦ увайшоў у архіерэйскі Сабор Рускай праваслаўнай царквы за мяжой. Рашэннем гэтага Сабора архіепіскап Філафей быў прызначаны вікарным епіскапам у Берлінска-Германскую епархію з тытулам Гесенскага і рэзідэнцыяй у Вісбадэне.

У 1953 годзе Філафей атрымаў новую царкоўную пасаду — ён стаў епіскапам Гамбургскім і Паўночнай Германіі. Па яго ініцыятыве ў Гамбургу быў пабудаваны сабор Святога Пракопа. А побач з саборам у адным з царкоўных памяшканняў жыў сам епіскап.

У 1971 годзе ўладыка Філафей стаў архіепіскапам Берлінскім і Германскім. Яму было дазволена насіць алмазны крыж на клабуку. А праз дзесяць гадоў прэзідэнт ФРГ узнагародзіў Філафея «Крыжам гонару» першай ступені.

Вясной 1981 года ў архіепіскапа здарыўся інфаркт. А ў верасні 1986 года яго не стала.

Царкоўная дзейнасць архіепіскапа Філафея (Уладзіміра Нарко) у справе беларускага рэлігійнага жыцця, як у Беларусі, так і беларусамі на эміграцыі, заўсёды ацэньвалася неадназначна і характарызавалася непаслядоўнасцю. Тым не менш, гэта даволі вялікая царкоўная асоба ў гісторыі нашай Бацькаўшчыны, і забываць яе нам нельга. І апошняе. У энцыклапедычным даведніку «Рэлігія і царква на Беларусі» (Мн., «Беларуская энцыклапедыя», 2001) архіепіскап Філафей нават і не згадваецца.



Архімандрыт Філафей (сядзіць першы злева) са студэнтамі багаслоўскага факультэта Варшаўскага ўніверсітэта і з духавенствам Польскай праваслаўнай царквы. Варшава, 1938 г. Фота друкуецца ўпершыню

**Даведка:**

Антон Мартас (архіепіскап Афанасій (Апанас) нарадзіўся на Нясвіжчыне. У 1942 годзе ў Мінску быў высвечаны на епіскапа Віцебскага і Полацкага. Пасля вайны жыў у Германіі, Аўстраліі, Аргенціне. Усё жыццё сябраваў з уладыкам Філафеем. У 1966 годзе ў Буэнас-Айрэсе выдаў кнігу «Беларусь в исторической государственной и церковной жизни» з прадмовай па-беларуску. Праз некалькі гадоў Сінод Рускай праваслаўнай царквы за мяжой забараніў чытанне і распаўсюджванне гэтай кнігі, а аўтара адлучылі ад рэлігійнай дзейнасці. Кнігу Беларускі Экзархат перавыдаў у Мінску ў 1990 годзе.

ФЭСТЫ

# «ТАЎКАЧЫКІ НА КАЛЯДЫ»:

## НА МЯЖЫ САКРАЛЬНАГА І КАРНАВАЛЬНАГА

Анатоль МЯЛЬГУЙ

**Ад самага пачатку правядзення музычнага folk-modern фэсту «Таўкачыкі» (з 2000 года), яго арганізатар, ідэйны натхняльнік, вядомы этнограф і рок-музыкант Юры Выдронак імкнуўся падкрэсліць не толькі старажытныя карані народнай беларускай культуры, але і яе непарыўную сувязь з еўрапейскім фальклорам.**



Мотальская зборня



Юрый Выдронак

Вось і цяперашні VII folk-modern фэст «Таўкачыкі на Каляды», які адбыўся ў канцэртнай зале Беларускага савета прафсаюзаў, быў прысвечаны Калядам — самаму старажытнаму і ўніверсальнаму святу, у якім зліліся элементы хрысціянскай і паганскай сімволікі. Элементы гэтых веравызнанняў складаюць тыя семантычныя знакі, якія вызначаюць загадкавы свет беларускай міфалогіі. Напрыклад, гэтым разам на «Таўкачыках на Каляды» жыхарамі вёскі Раздзялавічы Ганцавіцкага раёна Брэсцкай вобласці была прадстаўлена рэдкая разнавіднасць каляднага абраду, у якім выкарыстоўваецца «калядная зорка» з гарбуза. Безумоўна, гэта нейкая сімвалічная паралель з днём Усіх Святых, ці Хэлоўінам. Беларускім этнографам яшчэ трэба будзе асэнсаваць убачанае на гэтых «Таўкачыках» і, магчыма, дзякуючы іх даследаванням, мы разгорнем яшчэ адну цікавую старонку нашай мінуўшчыны. Прынамсі, у гэтым бачыцца стратэгічная мэта фэсту «Таўкачыкі» і пошукаў яго нязменнага арганізатара Юрыя Выдронка.

Як і мінулыя разы, фэст распачаў гурт UR'IA, які задаў канцэртнай праграме каляды настрой. Гэтаму спрыяла выкананне гуртом песень святочнай тэматыкі — «Шчодры вечар», «Залатая горка», а таксама іншых знакамітых калядных мелодый, добра вядомых слухачам у выкананні гурта «UR'IA». Да таго ж, музыканты выканалі гімн фэсту — старажытную танцавальную мелодыю «Таўкачыкі», якая стала за гады правядзення імпрэзы вельмі блізкай яе наведвальнікам.

Сваю калядную праграму з гульнявымі элементамі прапанавалі слухачам удзельнікі дзіцячага гурта «Калыханка» пад кіраўніцтвам Л. Рыжковай. Гэты калектыў — не дэбютант на фестывальнай сцэне; яго ўдзельнікі, школьнікі розных узростаў, пачуваць сябе на сцэне разняволена. Іх настрой перадаваўся слухачам, якія з задавальненнем адзначалі для сябе тое, што ўдзел у такіх фальклорных гуртах — лепшы педагагічны сродак па ўмацаванню нацыянальнай свядомасці нашых дзетак.

Здзівіў зменамі ў гучанні гурт «Дзівасіл»: ад былога акустычна-рамантычнага напрамку ў іх музыцы засталося не так шмат. Цяпер «Дзівасіл» арыентуецца на фолк-рок, з яго празрыстым гітарным гучаннем, псіхадэлічнымі клавішнымі сола і ўзвышаным, моцным вакалам салісткі Іны Перасецкай. Гурт перастаў выкарыстоўваць дуду, што прывяло да аслаблення акустычнага складніка традыцыйнага гуку «Дзівасіла».

Затое гурт «Ветах» арыентаваўся, і гэта знаходзіла водгук у душах слухачоў, на традыцыйныя беларускія народныя інструменты, з іх цёплымі і мяккімі акустычнымі тэмбрамі. У калядных кампазіцыях «Ветаха» выкарыстоўвалася беларуская дуда, жалейкі, гуслі, варган… Святочны тон праграме «Ветаха» задавалі чароўныя салісткі, якія змаглі завалодаць увагай аўдыторыі. Калі ж загучала мелодыя танца «Верабей», то слухачы актыўна падтрымалі гурт апладысментамі і воклічамі «брава!».

Шматгадовы ўдзельнік фэсту гурт «Нагуаль» яшчэ больш наблізіўся ў сваёй творчасці да беларускасці: цяпер у рэпертуары багемных сталічных музыкантаў з'явіліся выдатныя беларускамоўныя кампазіцыі, якія выводзяць як музыкантаў «Нагуаля», так і іх прыхільнікаў на новы ўзровень разумення нацыянальнага ў творчасці. Маю на ўвазе кампазіцыю, што так узрушыла слухачоў, — «Месячык удалы». Калі аналізаваць і параўнаць гэту і іншыя кампазіцыі гурта, што гучалі на фэсце — «Індзіч» ці «Дзяўчына, якая шукае сабе сябра», — то трэба адзначыць розныя падыходы да кампазіцыі і аранжыроўкі прагучаўшых спеваў.

Арганізатар «Таўкачыкаў на Каляды» Ю. Выдронак не выпадкова запрасіў на фестывальны канцэрт вядомага беларуска-курдскага музыканта Масуда Талебані, які выйшаў на сцэну разам са сваім гуртом «AVINDAR». Усходнія фальклорныя мелодыі і спевы былі арыгінальным дадаткам да беларускага каляднага ладу фестывалю. Масуд Талебані дэманстраваў зайздросную выканаўчую ўніверсальнасць, калі пранікнёна спяваў лірычныя творы на персідскай і курдскай мовах, граў на традыцыйных курдскіх струнных і ўдарных інструментах. Мо таму беларусы так уважліва ўслухоўваліся ў голас пасланца курдскага народа, знаёміліся з яго яркай песеннай спадчынай.

Галоўнымі ж дзеючымі асобамі фэсту сталі выканаўцы беларускага традыцыйнага фальклору з розных раёнаў Беларусі. Іх тэатралізаваныя пастаноўкі з песнямі, скокамі, з калядной Казой і святочнымі пачастункамі сталі пацверджаннем таго факта, што мы з'яўляемся спадкаемцамі ўнікальнай фальклорнай спадчыны, гісторыя якой налічвае тысячы гадоў. Увагу залы прыцягнула яркае, калярова-вясёлкавае калядное шоў «Мотальскай зборні» з аднайменнай палескай вёскі. Гэтым калектывам апякуецца сапраўдны энтузіяст адраджэння беларускага фальклору Эльвіра Каткавец.

Спадарыня Эльвіра змагла сабраць у адзіную творчую суполку мотальскіх аматараў фальклору розных узростаў: дзяцей, падлеткаў, юнакоў і дзяўчат, людзей сярэдняга і сталага ўзросту, дапамагала раскрыць іх талент і рэалізаваць гэты скарб у шыкоўнай канцэртнай праграме. Каляровай адзнакай выступлення «Мотальскай зборні» сталі нацыянальныя мотальскія строі, у якія былі апранутыя палескія жанчыны і дзяўчыны. А яшчэ гледачы змаглі пабачыць традыцыйныя мотальскія кажушкі, вырабам якіх славілася гэтая беларуская вёска. Таленавітыя людзі — таленавітыя ва ўсім: і ў рамястве, і ў спевах!

Сенсацыяй фэсту «Таўкачыкі на Каляды–2012» стала праграма фальклорнага гурта з вёскі Раздзялавічы Ганцавіцкага раёна Брэсцкай вобласці. Іх калядная зорка з апрацаванага гарбуза і свечкі, якая сімвалізавала, па словах Ю. Выдронка, святло далёкай каляднай зоркі, стала цэнтрам фестывальнай дзеі «Таўкачыкаў». І думка амаль усіх гледачоў была агульнай: беларускія каляды — гэта ж і ёсць «прарадзіма» еўрапейска-амерыканскага свята Хэлоўін! Настолькі арганічна і лагічна яна выцякала са старажытнага перформансу і праграмы пявуннях з вёскі Раздзялавічы.

Арганізатары фестывалю «Таўкачыкі на Каляды» заўсёды ставілі на пошукі і адкрыццё невядомых старонак нацыянальнай нацыянальнай фальклорнай спадчыны. Але акрамя ўнікальнага этнаграфічнага і музычнага матэрыялу, яны заўсёды знаходзілі таленавітых беларускіх людзей, сяброў фестывалю «Таўкачыкі», якія захавалі і так яскрава прапагандуюць нашу песенную спадчыну.

КІНО

# «ШЭРЛАК ХОЛМС: ГУЛЬНЯ ЦЕНЯЎ»

Андрэй РАСІНСКІ

**Коміксавыя прыгоды Шэрлака Холмса і доктара Ватсана, знятыя Гаем Рычы, атрымліваюць дзве з паловаю зорачкі з пяці.**

Шэрлак Холмс, прыдуманы Конан Дойлем, адзін з найслынных кінагерояў. Колькасць фільмаў з ягоным удзелам пераваліла за 250. Дэтэктыў з Бейкер-стрыт па сваёй папулярнасці саступае толькі Дракулу і далёка абагнаў Папялушку.

За стогадовую гісторыю экранны Холмс бачыў рознае. Былі першыя авантуры, пастаўленыя яшчэ пры жыцці літаратурнага героя, — на мяжы вякоў. Былі сур'ёзныя нямыя дэтэктывы з Эйлі Норвудам і дасціпны фільм камедыёграфа Мака Сэнэта (з Макам Сэнэтам у ролі Шэрлака Холмса). Шэрлака Холмса гралі арыстакратычны Бэзіл Рэтбоўн і Пітэр Кашынг з Крыстаферам Лі, вядомыя як зоркі хорараў. На пачатку 1980-х гадоў свой Шэрлак Холмс з'явіўся ў савецкіх гледачоў: Васіль Ліванаў выглядаў як эталонны англійскі джэнтльмен. Шэрлак Холмс у кіно — у дадатак да сваіх следчых трукаў — мог спяваць, танчыць і нават з'яўляцца жанчынай.

Але Гай Рычы прызначыў яму адмысловую ролю. Рычы ўзяў Шэрлака Холмса і доктара Ватсана з віктарыянскага Лондана (знаёмага нам па фільмах) — і шпурнуў у заварушкі, пра якія Конан Дойль і не марыў.

Спачатку Шэрлак Холмс новага тыпу змагаўся з сатаністам, які прагнуў атруціць брытанскі парламент дый выдаваў сябе за паўсталага з мёртвых (спірыт Конан Дойль такія кпіны з іншасвету не ўхваліў бы). У цяперашняй карціне Рычы Холмс б'ецца з прафесарам Марыярці, які арганізуе выбухі ў еўрапейскіх сталіцах.

Роберт Даўні-малодшы (Холмс) і забаронены ў Беларусі Джуд Лоў (доктар Ватсан) — іранічныя коміксавыя маскі супергерояў, ласых на прыгоды (доктар Ватсан супраціўляецца: у яго мядовы месяц, але Холмс выкідае лішнюю жонку з цягніка!).

Героі жвавыя і энергічныя (Роберт Даўні не забывае спасланцца на апошнюю шалёную маску Хіта Леджэра); ляцяць у паветра падарваная тэхніка, стракочуць кулямёты з падпольных заводаў. Стужка — не проста комікс, але і віктарыянскае рэтра з сучаснай зубадрабільнай энергетыкай.

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар Кароль Аляксей Сцяпанавіч

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.
ЗАСНАВАЛЬНІК: Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл.: (+375 17) 284 85 11.
ВЫДАВЕЦ: Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА:
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл.: (+375 29) 651 21 12, (+375 17) 268 52 81.
novychas@gmail.com; www.novychas.org
НАДРУКАВАНА ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.
Замова № 36

Падпісана да друку 13.01.2012. 8.00.
Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.
Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая.
Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.